Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-кооперацыйнага саюзу паляўнічых

1930
№ 8
Жнівень

Год выданьня IV





Выглядае дзіч

# З ГАЗЭТ І ЧАСОПІСЯЙ

**Паляваньне на тыграў.** Скончыла паляваньне на ўсурыйскіх тыграў амэрыканская экспэдыцыя і выехала ў Амэрыку. Здабыча экспэдыцыі нездавальняючая: лавушкамі і ўсякімі самастрэламі ўдалося здабыць за тры месяцы толькі трох тыграў у той час, калі наш адзін паляўнічы ўсурыец Казін Ляксей за гэты час забіў 17 тыграў.

Паляваньне экспэдыцыяй учынялася ў нетрах хрыбта Сіхотэ-Алінь (Усурыйскі край).

**Мядзьведзь-валацуга.** У канцы сьнежня 1929 году паляўнічымі ў Кіронскай акрузе ў таежным прамысловым зімоўі (хатка) быў знойдзен здохлы мядзьведзь-валацуга. Перад сьмерцю мядзьведзь-валацуга абышоў 7 зімоўеў і разбурыў іх. Забраўшыся ў 8-е зімоўе, мядзьведзь паламаў пакінутыя ў зімоўі рэчы, памяў жалезную печку, зьеў 3 пуды мукі, згрыз і зьеў квашанку, у якой замешвалася мука, і пасьля гэтага лёг пад нары, паслаўшы пад бакі пакінутую на зіму адзежу, а зьверху накрыўся пустым мяшком. У такім становішчы паляўнічыя знашлі мядзьведзя ўжо мёртвым.

Пры ўскрыцьці жывата ў мядзьведзя знойдзена, што жывот у яго залеплен мукой і напоўнен шчэпкамі ад зьедзенай квашанкі. Шчэпкамі кішкі ў мядзьведзя ў некалькіх мясцох аказаліся парванымі.

Паляўнічымі было заўважана, што мядзьведзь мачыўся ў сабачае карытца, з якога карміді сабак. Гэта карытка мядзьведзь прынёс з надворку, як відаць, для гэтай мэты. („О. К. Р. С.“)

**Колькі паляўнічых у Японіі.** У апошнія 15—20 год колькасьць паляўнічых у Японіі сільна вырасла. Напрыклад, у 1910 г. іх было зарэгістравана 63.000, а ў 1929 г. колькасьць іх дасягнула 217.000.

Кошт паляўнічых білетаў на права паляваньня залежыць ад маёмаснага стану паляўнічага—ад 2 да 10 руб.

Новая такса, якая значна паменшыла кошт білета, дала магчымасьць шмат якім паляўнічым выбраць білеты і ня ўхіляцца ад рэгістрацыі.

Вось лічбы, сьцьвярджаючыя гэта: у 1922 г. выбірала паляўнічыя білеты ўсяго толькі 117.300 чалавек, а ў 1929 г.—217.000.

Білеты на права паляваньня выдаюцца двох узораў. Адны з правам паляваньня сецямі, сілкамі і інш. пасткамі, другія—выключна з стрэльбамі.

Тэрмін паляваньня ўстаноўлен з 15 кастрычніка па 15 красавіка. („О. і Р. С.“)

**СССР на першым месцы.** Самае буйнае месца на міжнароднай пушной паляўнічай выстаўцы ў Лейпцыгу адведзена Дзяржгандлю СССР. Гэта і зразумела, бо 30% пушніны, паступаючай на міжнародны рынак, дабываецца ў СССР. Самым цікавым на выстаўцы будзе зоопарк, ён утвараецца Дзяржгандлем на яе тэрыторыі з насяленьнем жывых зьвяроў. Усяго ў гэтым парку будзе 97 прадстаўнікоў зьвяроў, якія даюць пушніну ў СССР і дабываюцца ў нас. („О. і Р. С.“)

**У адным гняздзе.** У чэрвені 1927 году ў адным гняздзе ластаўкі, апроч птушанят ластаўкі, было знойдзена двое птушанят невядомай птахі. Птушаняты гэтыя былі ўдвое больш за ластавак, сільнейшымі, бо адганялі другіх птушанят і паядалі корм першымі. Гняздо было ўзята пад суровы нагляд. Потым птушанят узялі ў клетку і канчаткова выкармілі. Выявілася, што двое птушанят былі чыжы.

Выпадак рэдкі і гаворыць за тое, што не адна толькі зязюля кладзе яйкі ў чужыя гнёзды. („О. і Р. С“).

### У Чылії. Помста гуся.

Цікавы і рэдкі выпадак нападу дзікага гуся адзначан увосень гэтага году ў Геро. Адзін з паляўнічых забіў гусыню і параніў гусака. Гусак накінуўся на паляўнічага і пачаў біць яго крыламі і абдзіраць твар лапамі. Напад гуся быў такі раптоўны, што таварышу па паляваньню прышлося выручаць паляўнічага і забіць вяслом гуся.

### У Турцыі. Слонка альбінос.

Увосень 1929 г. у Анатоліі была забіта зусім белая слонка з цёмна-ружовымі лапамі. З скуркі яе было зроблена чучала, якое набыў музэй за 250 франкаў. Некалькі год таму назад тут-жа была забіта перапёлка-альбінос.

№ 8

# Паляўнічы Беларусі

1930 году.

Штомесячная часопісь „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.



# Пачаць працу па новаму

Зьезд цалкам і поўнасьцю адабрае пастанову ЦК аб ліквідацыі акруг і аб узмацненьні раёнаў, як асноўнага зьвяна сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, што павінна прывесьці да рашучага наближэньня партыйнага савецкага апарату да вёскі, да калгасу, да мас, такая дырэктыва 16-га зьезду Камуністычнай партыі. Гэта дырэктыва датычыцца і паляўнічай каапэрацыі.

У сувязі з ліквідацыяй павінна быць разгорнута праца ў раённых таварыствах. Большасьць паляўнічых Беларусі знаходзіцца на вёсцы, а таму асабліва важным пытаньнем зьяўляецца сувязь гарадзкога паляўнічага з паляўнічым вёскі, сувязь гораду з вёскай праз паляўнічую каапэрацыю.

Нам трэба дамагчыся таго, каб паляўнічыя гораду, як больш культурныя і больш арганізаваныя, зьяўляючыся ў вёску, дапамагалі нізавым ячэйкам у рабоце.

Неабходна ў бліжэйшы час па ўсіх галінах пачаць праводзіць колектывізацыю працы. Дамагчыся пераломы ў тым, каб асновай нашай працы была вытворчасьць і промысел, а гандаль стаў-бы падсобным відам.

## У галіне паляўнічай гаспадаркі

Галоўнай задачай Белкахотсаюзу зьяўляецца калектывізацыя паляўніча-прамысловай гаспадаркі. Базай для калектывізацыі паляўнічай гаспадаркі павінны зьяўляцца абагуленыя паляўнічыя ўгодзьдзі, шляхам прыпіскі іх да паляўнічых таварыстваў і ячэек.

Лепшым тыпам паляўнічай гаспадаркі зьяўляецца тая гаспадарка, якой вядзецца плянава, нарміраваны адстрэл зьвяр'я ў адпаведнасьці з натуральным прыростам. Арганізуючы прыпісныя паляўнічыя вучасткі, мы даб'емся таго, што ўсе паляўнічыя будуць удзельнічаць у гэтым. І мы тым самым павысім таварнасьць паляўнічай гаспадаркі, шляхам правільнага яе вядзеньня. На працягу некалькіх месяцаў у часопісу „Паляўнічы Беларусі“ ў дыскусыйным парадку зьмешчана шмат артыкулаў па пытаньню прыпіскі паляўнічых угодзьдзяў. Адначасова былі выступленьні на сходах асобных паляўнічых, якія ў сваіх прамовах адгукваліся аб артыкулах, якія зьмешчаны ў „П. Б.“ ў абарону прыпіскі паляўнічых угодзьдзяў, як аб контррэвалюцыйных. Іншыя тварышы бачаць у справе прыпіскі паляўнічых угодзьдзяў зварот да мінулага, у зварот да панства, будуць, моў, паляўнічыя паны, маючыя свае паляўнічыя ўгодзьдзі і паляўнічыя бяз іх. Такія размовы, бязумоўна, няправільныя, бо зараз, пасьля чысткі паляўнічай каапэрацыі, у яе радох засталіся толькі працоўныя, якія да Кастрычнікавай рэвалюцыі права на паляваньне ня мелі. Прыпіскай угодзьдзяў мы даб'емся ня толькі ўдзелу масы паляўнічых у справе палепшаньня вядзеньня гаспадаркі і падвышэньня яе таварнасьці, але галоўным чынам мы даб'емся сувязі гораду з вёскай.

## Сабакагадоўля

Да гэтага часу праца па сабакагадоўлі выражалася ў тым, што раз у год альбо два разы адбываліся выстаўкі і выпыты сабак, а рэгулярнага кіраўніцтва сабакагадоўляй у нас ня было. Таму за апошнія гады гэта справа не палепшылася, а пагоршылася. Ёсьць шмат сабак, якія не павінны лічыцца паляўнічымі. Многія паляўнічыя ня маюць сабак, многія маюць дварняжак, з якімі і ходзяць на паляваньне.

Вучоту сабак на Беларусі ня было і няма. Трэба зьмяніць практыку сабакагадоўлі, вытварыць дакладны вучот паляўнічых сабак у кожным раёне і па ўсёй Беларусі.

## Барацьба з драпежнікамі

У барацьбе з драпежнікамі ў нас таксама ня было плянавасьці і арганізаванасьці, а рабілася ад выпадку да выпадку. Забівалася шмат бадзячых сабак і кошак, але забітыя заставаліся на полі гніць, так як зьняць шкур ня было каму. Між тым, калі мы пачнем весьці барацьбу з драпежнікамі ня кожны паасобку, а калектыўна, па пляну, шляхам стварэньня дружын і брыгад, то мы будзем мець магчымасьць лепш праводзіць гэтую працу і больш зьнішчым драпежнікаў. Адначасова зможам забітую жывёлу дастаўляць на загатоўчыя пункты, а не пакідаць іх гніць на полі. Пакідаючы забітую жывёлу на полі, ня зьняўшы з яе скуру, мы пазбаўляем дзяржаву каштоўнай пушніны і скуры, а таксама і тлустасьці, так як тушы скаціны ператалпіваюцца ў тлустасьць, якая ідзе на тэхнічныя патрэбы прамысловасьці. Таму неабходна, як правіла, каб з забітых зьвяроў здымаліся скуры, а тушы іх здаваліся ў салатопныя заводы.

## Трусаводзтва і зьвераводзтва

Ня гледзячы на рад прапаноў з боку цэнтральнага праўленьня, мы пакуль у справе трусаводзтва на мясцох зрабілі вельмі мала, так як пры існаваньні акруговых таварыстваў раёны ня мелі магчымасьці гэтым заняцца з-за адсутнасьці сталых работнікаў. З пераходам на раённую сыстэму, кожны РВК, кожнае раённае т-ва будуць больш зацікаўлены гэтай працай. Трэба зараз-жа прыступіць да кантрактацыі трусоў у тым, каб у гэтым годзе захаваць як мага больш матак трусоў. Неабходна, каб у кожным. раёне было арганізавана ня менш аднаго трусятніка, пры чым пажадана арганізоўваць у першую чаргу колектыўныя трусятнікі пры калгасах, саўгасах, паляўнічых ячэйках.

## Загатоўкі

Усім паляўнічым ячэйкам і раённым т-вам трэба рыхтавацца да загатоўкі пушніны. У гэтым годзе паляўнічая каапэрацыя будзе адна на рынку па загатоўцы пушніны, а таму адказнасьць за выкананьне загатоўкі кладзецца цалкам на яе. Кіраўнікі раённых таварыстваў, якія непасрэдна будуць прымаць пушніну, у гэтым годзе пройдуць курсы пры ЦП Белкахотсаюзу, дзе атрымаюць належную падрыхтоўку ў пушной справе.

Такія нашы чарговыя задачы. Выканаць мы ўсё гэта зможам толькі пры актыўным удзеле ўсіх паляўнічых, шырока растлумачыўшы крытыку і самакрытыку зьверху да нізу.

**Сільнікаў.**

# ПАЛЯЎНІЧАЯ ГАСПАДАРКА ПАВІННА БЫЦЬ НАЛАДЖАНА

## Хопіць аднекваньняў! Пара ўзяцца за працу!

У той час, калі наша краіна напружвае ўсе свае нэрвы на выкананьне пяцігадовага пляну індустрыялізацыі ў чатыры гады, у паляўнічай каапэрацыі Беларусі гэтыя нэрвы не ў парадку. Першы год пяцігодкі будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі сарвана, аб чым ужо пісалася ў нашай часопісі. Нельга сумнявацца ў тым, што і другі год будзе сарваны, таксама, як і першы.

Кожная ўстанова, кожнае прадпрыемства, кожная галіна народнае гаспадаркі напружваюць кожны нэрв, кожны мускал для выкананьня пяцігодкі, вядуць нясупынную барацьбу за тэмпы, за прамфінплян, за выкананьне кантрольных лічбаў, перабудоўваюць усю сваю работу і падпарадкоўваюць яе гэтай мэце.

Што жа зроблена ў гэтым напрамку ў паляўнічай каапэрацыі, у прыватнасьці „Белкохотсоюзам“. Якая там вядзецца барацьба за тэмпы, за выкананьне кантрольных лічбаў, якая там адбылася рэарганізацыя для больш пасьпяховага выкананьня пляну будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, як часткі ўсяе нашае гаспадаркі.

Аб тэмпах: Тэмпы ў нас „сногсшибательные“. Даволі сказаць таго, што летась было падрыхтавана пушніны на некалькі процантаў менш, чым залетась, а сёлета будзе падрыхтавана яшчэ менш. Прычына гэтаму—„тэмпы“ нашай работы па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі. Праца па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі складаецца з наступных элемэнтаў: разьвіцьцё зьверагадоўлі, узмацненьне барацьбы з браканьерствам, правільнае вядзеньне ўласна паляўнічай гаспадаркі ў натуральных умовах, г. зн. адчыненьне заказьнікаў і сапраўдная іх ахова, падсеўка ў іх кармовых траў, зьнішчэньне драпежнікаў, падлік фауны і г. д.

Нямалую ролю ў будаўніцтве паляўнічай гаспадаркі павінны адыгрываць культур.-асьветная работа, культурныя паляўнічыя гаспадаркі, паказальныя вучасткі і так зв. „прыпіска“ паляўнічых да ўгодзьдзяў паляваньня. Апошняя (прыпіска) прызнана самым рацыянальным спосабам вядзеньня паляўнічай гаспадаркі ў натуральных умовах і практыкуецца па ўсім СССР.

Што-ж у нас зроблена ў гэтым напрамку? Заказьнікаў, праўда, у нат шмат. Але што гэта за заказьнікі! Наркамзем і „Белкохотсоюз“ лічаць (відаць, ня інакшай) сваёй мэтай: першы—вынесьці пастанову аб адчыненьні заказьніка ў якім-небудзь мёсцы на некалькі год, а другі—апублікаваць гэту пастанову ў часопісі, а там „хоць трава не расьці“. Аніякай падсеўкі траў, аніякага падліку фауны, аніякай аховы і іншай работы. Калі пачытаеце часопісь „П. Б.“ за гэты год, самі ўпэўніцеся ў гэтым, не гаворачы ўжо аб тым, якое-б вы атрымалі ўражаньне ад паездкі па заказьніках.

З зьверагадоўляй у нас справа абстаіць так кепска, што аб ёй ня толькі трэба гаварыць, але крычаць. За два гады мы нічога не пабудавалі. Мы толькі пачынаем будаваць адзін трусятнік у Менску, маем адзін каля м-ку Добрамысль (Віцебская акруга) і маем невялікі ў м-ку Бешанковічах, самы меншы, здаецца, у нашай каапэрацыі.

Культурна-асьветнай работы ў нас аніякай ня было, за выключэньнем таго, што выпускаецца раз у месяц часопісь. Барацьба з браканьерствам праводзіцца вельмі кепска. Мы яшчэ не дамагліся таго, каб у гэтай рабоце нам дапамагалі органы ўлады на мясцох, а без дапамогі іх гэта барацьба будзе праходзіць вельмі непасьпяхова. Уласна паляўнічая гаспадарка ў натуральных яе умовах! Тут так кепска, што далей ужо няма куды. Лік паляўнічых з кожным годам расьце, а дзічы становіцца ўсё менш і менш. А хіба сапраўды ў нас, у Беларусі, вымірае зьвер і птаха з прычыны зьмены ляндшафту?

Калі-б наша работа ня ўпіралася і бюракратычныя і апартуністычныя рагулькі, зьвера і птахі, бязумоўна, разьвялося-б больш. Самі паляўнічыя масы і навуковыя сілы давалі шмат карысных прапаноў для аздараўленьня паляўнічай гаспадаркі, але некаторыя з іх засталіся пустым гукам, а другія, хаця і былі прыняты ў прынцыпе, у жыцьцё не праведзены з-за чыста тэхнічных „закавычак“.

Ёсьць факты і такія: „Белкохотсоюз“ прасіў Наркамзем дазволіць адлавіць дзесяць баброў, якіх часткай меркавалася перасадзіць у бабровыя гадавальнікі, а часткай паслаць за мяжу. Наркамзем адлавіць „Белкохотсоюзу“ дзесяць бабраў дазволіў і паперка аб адлове гэтых баброў была накіравана для выкананьня. Але заўсёды робіцца так, што добрыя пачынаньні кепска канчаюцца. Так здарылася і з бабрамі. У Клімавіцкім раёне адлавілі двух бабронкаў сысункоў і прыслалі „Белкохотсоюзу“. Адзін з бабронкаў праз некалькі дзён падох, а другога выратаваў паляўнічы, узяўшы яго для выхаваньня на кватэру, бо „Белкохотсоюз“ думаў аб разьвядзеньні ў няволі баброў і іх экспарце толькі тады, калі пісаў паперку аб адлове іх і палец аб палец пасьля гэтага ня ўдарыў, каб падрыхтаваць бабром спрыяючыя ўмовы існаваньня. Рэдкі зьвер, такім чынам, зьнішчаецца, а галавацяпам гэта сходзіць нярэдка безнаказна. Хіба гэта работа не апартуністая.

У № 11—12 „Паляўнічы Беларусі“ за 1929 г. т. Дзярыба падняў пытаньне аб рэарганізацыі паляўнічай гаспадаркі ў яе натуральных умовах. Няма чаго паўтараць, што пры сучаснай сыстэме яна будзе заняпадаць, але праўленьнем пакуль што яшчэ нічога ня зроблена для зьнішчэньня недахопаў, якія перашкаджаюць яе разьвіцьцю.

Аб плянах і кантрольных лічбах. Ну, аб іх гаварыць шмат ня прыходзіцца, бо „Белкохотсоюз“ да пленуму праўленьня, г. зн. да 20—23 чэрвеня ў 1929-30 гаспадарчым годзе плаваў бяз руля і вятрыл. Плян складзен і зацьверджан толькі пленумам.

Праўда, за апошнія часы, пасьля зьмены кіраўніцтва „Белкохотсоюзу“ (новы старшыня праўленьня) ёсьць і дасягненьні. Больш шпаркім тэмпам пайшло будаўніцтва трусятнікаў, ажывілася работа па арганізацыі паляўнічай гаспадаркі, прыступлена да арганізацыі паляўнічых ячэек на прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах і нават прыняты меры для зьмякчэньня па сіле магчымасьці мяснога крызісу.

„Белкохотсоюз“ заключыў дагавор з Белкаапсаюзам на пастаўку ў сталоўкі дзічы.

Неабходна было-б загатаўляць грыбы, ягады і іншую сыравіну. Але знаходзяцца людзі, якія гавораць, што гэта ня наша справа, няма кадраў, будуць памылкі. Часта бывае, што паляўнічаму неабходна ўзяць набояў, а грошай няма. Тады паляўнічы можа памяняць на набоі грыбы, ягады і інш. Грыбамі неабходна заняцца і паляўнічай каапэрацыі. Наконт кадраў гаварыць нечага. Кадраў у нас няма, і для пабудовы паляўнічай гаспадаркі і мы іх ня рыхтуем, а гаспадарка развальваецца, дзічы і зьвера становіцца менш, нарыхтоўкі пушніны скарачаюцца. А як мы плянуем і будуем нашу гаспадарку, каб дасягнуць станоўчых вынікаў у сваёй рабоце? Бяз кадраў гэтага зрабіць немагчыма.

Вядома, дагавор і на пастаўку дзічы выкананы поўнасьцю ня будзе, бо дзічы з кожным днём становіцца ўсё менш і менш, паляўнічыя ўгодзьдзі пусьцеюць. Гэта—вынікі нашай работы, гэта вынікі дзедаўскіх форм будаўніцтва гаспадаркі. Гэта нашы тэмпы, якія павінны дапамагаць выконваць пяцігодку індустрыялізацыі краіны ў чатыры гады. Гэта паказальная праца апартуністых на практыцы.

Адзін з кіраўнікоў ЦП саюзу паляўнічых разразіўся ў гэтым нумары вялікім артыкулам „За цьвёрдыя тэрміны паляваньня“. А што гэта сыстэма дасьць? Скарачаецца плошча для паляваньня, затое выбіваецца больш зьвера і птах там, дзе можна паляваць, а значыцца менш іх застаецца на будучы год. Неабходна знайсьці новыя, больш жыцьцёвыя формы будаваньня гаспадаркі, чым скарачэньне тэрмінаў. Скарачэньне тэрмінаў разьвівае браканьерства, пра гэта ведае сам т. Сьмірноў, але мінае гэта. Прыклад,—дупялі і бэкасы гэтага году. Пастановай Наркамзему па хадайніцтву праўленьня „Белкохотсоюзу“ даўганосыя былі забаронены да абстрэлу, а мала хто лічыўся з гэтай пастановай, бо яна ня жыцьцёвая, накіравана, галоўным чынам, на тое, каб паляўнічыя псавалі сваіх сабак, а ня будзе добрых сабак, ня будзе ў паляўнічага дзічы, ня будзе некалькіх лішніх дзён абеда з мясам, бо бяз добрага сабакі можна дабыць птаху толькі выпадкова. Улічваючы тое, што зараз крызіс на мяса, а паляўнічая маса складаецца зараз выключна з працоўных гораду і вёскі, трэба сказаць, што пастанова аб дупялёх і бэкасах—прадукт творчасьці галавацяпаў, накіраваны супроць паляўнічых.

Ітак, паляўнічая гаспадарка знаходзіцца ў крытычным становішчы—аб гэтым гаворыць тое, што дзічы становіцца менш, аб гэтым гавораць паляўнічыя масы. Барацьба з браканьерствам і шкоднікамі праводзіцца слаба, брыгады для зьнішчэньня гэтых зьявішчаў ня былі арганізаваны і не працавалі. Заказьнікі не ахоўваюцца. У іх—і наогул па ўсіх угодзьдзях—бадзяюцца сабакі, павялічваюцца



Забітыя ваўкі на Гомельшчыне.

колькасна ваўкі і зьнішчаюць астачу дзічы. А хіба наша гаспадарка такая дробязь, што на яе ня вярта зьвярнуць увагу? Хіба паляўнічая гаспадарка не дапамагае парабудове нашай краіне, выкідаючы на рынак на некалькі мільёнаў (па ўсім СССР) сваіх прадуктаў—пушніны? Яна магла-б даваць і мяса.

Нам неабходна павялічыць ураджайнасьць паляўнічых угодзьдзяў—а для гэтага трэба каранным чынам зьмяніць мэтады сваёй работы і палепшыць яе, знайсьці новыя формы будаўніцтва гаспадаркі—скарачэньне тэрмінаў нічога путнага ня дасьць—пабудаваць гадавальнікі зьвяроў і размножнікі птушак (заказьнікі, культурныя гаспадаркі, вопытна-паказальныя вучасткі), дзе-б паляўнічая маса вучылася. У гэты момант нам трэба ахоўваць кожнага зьвера, кожную птаху, каб выкарыстаць разумна іх, каб яны не пападалі ў зубы драпежнікаў. Для гэтага неабходна павесьці самую рашучую барацьбу з браканьерамі і асабліва бадзячымі сабакамі ўвесну. **Уся работа паляўнічай каапэрацыі павінна падпарадкавацца вялікай ідэі—перабудаваць краіну, каб яшчэ большымі крокамі ісьці да соцыялізму.**

**Бунтар.**

## ВАЎКОЎ АБКЛАЛІ, ДЫ НЕ ЗАБІЛІ

*(Смалявіцкі раён, Менскай акругі)*

На 20 ліпеня былі падвыты і абкладзены ваўкі. Усё было-б добра, але некаторыя паляўнічыя не хацелі прапусьціць першага дня паляваньня на качак і на аблаву зьявілася мала людзей. Ад райбюро ня толькі ня было прадстаўніка, але нават ня было дзе ўзяць і стрэльбаў. Усё-ж аблаву пачалі. Ганцоў і стралкоў было мала і калі ваўкі вышлі на лінію, дык забілі толькі аднаго ваўчаня, а апошнія прарваліся праз лінію стралкоў і ўцяклі не зачэпленымі.

Што важней—аблава на ваўкоў ці паляваньне на качак? Па-мойму, аблава важней. Трэба сельячэйкам падняць дысцыпліну паляўнічых. Паляўнічы.

# ЗА ЦЬВЕРДЫЯ ТЭРМІНЫ ПАЛЯВАНЬНЯ

Тэрміны паляваньня маюць вялікае значэньне ў справе разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі. Апроч таго, цьвёрдыя тэрміны падтрымліваюць дысцыпліну між паляўнічых. У нас, у Беларусі, некаторыя чамусьці лічаць, што тэрміны ніякага значэньня для паляўнічай гаспадаркі ня маюць і іх можна зьмяняць, калі захочацца і як захочацца.

Амаль кожны год у нас зьмяняюцца тэрміны паляваньня Наркамземам. Праўда, за апошнія часы Наркамзем некалькі палепшыў гэтую справу, але ёсьць яшчэ недарэчнасьці. У 1928 годзе Наркамзем зьмяніў тэрміны паляваньня за тры дні да паляваньня, а ў гэтым годзе амаль што за паўтары месяцы.

Але горш за ўсё тое, што, зьмяняючы тэрміны, Наркамзем ня лічыцца з каапэрацыяй паляўнічых. Ён нават не паведамляе яе аб гэтым. У 1928 г. „Белкохотсоюз" толькі з газэты даведаўся аб зьмене тэрмінаў паляваньня. У 1930 г. калегія Наркамзему вынесла пастанову аб зьмене тэрмінаў на вадаплаваючую і балотную дзіч яшчэ 9 чэрвеня. Гэта пастанова тэрмінова была разаслана па лясьніцтвах, а саюз паляўнічых, гэта значыць той, хто павінен выконваць гэту пастанову, паведамілі толькі 23 чэрвеня, ня гледзячы на тое, што Наркамзем і „Белкохотсоюз" знаходзяцца ў адным доме і працаўнікі Наркамзему штодзень бываюць у „Белкохотсоюзе". Чым тлумачацца такія адносіны, мне аб гэтым невядома.

Вядома, пакідаць адны і тыя-ж тэрміны на ўвесь час немэтазгодна. Але і зьмяняцца яны павінны разумна, тады, калі гэта выклікаецца неабходнасьцю. Напрыклад, перанясеньне тэрмінаў паляваньня на зайцаў і лісаў з 1 на 15 кастрычніка тлумачыцца тым, што ад гэтага паляпшаецца якасьць пушніны, лік „галовак" з агульнага ліку штук нарыхтаванай пушніны значна павялічваецца. За тое перанясеньне тэрмінаў паляваньня на гэтых самых зьвераў з 15 лютага на 1 сакавіка ня вытрымлівае аніякай крытыкі: агульны лік нарыхтовак пушніны павялічваецца, але якасьць яе памяншаецца.

Такім чынам, скарачэньне тэрмінаў паляваньня ўвосень рацыянальна, а адтэрмінаваньне іх пад вясну шкодна. Я думаю, што трэба ўвосень яшчэ больш скараціць паляваньне на пушнога зьвера—да 1 лістапада. Супроць гэтага могуць выступаць толькі тыя паляўнічыя, якія захочуць наганьваць сабак па чорнай ступе. Але наганьваць гончых можна, перш-наперш, дазволіць раней, а па-другое, адчыніць спэцыяльныя заказьнікі для наганьваньня гончых. За тое палепшыцца якасьць пушніны, а гэта значыць павялічыцца яе экспарт.

Зараз аб тэрмінах на ваверку, выдру і дзіка. У нас да гэтага часу практыкавалася пэрыядычная забарона на гэтых пушных зьвяроў, гэта значыць іх размнажэньне рэгулявалася тэрмінамі паляваньня. Зараз мы пераходзім на другую сыстэму—папераменна адчыняць заказьнікі ва ўсіх паляўнічых угодзьдзях. Гэта значыць, што зьвер размнажаецца ў адным месцы, потым тут здымаецца заказьнік і страляецца дзіч, а замест гэтага абвяшчаецца заказьнік у другім месцы і г. д.

У нас прынята абвяшчаць заказьнік на пяць год. Мне здаецца, што гэта мерапрыемства дасьць добрыя вынікі, калі ў заказьніках будзе праводзіцца адпаведная работа. Апроч таго, я лічу, што тэрмін заказа можна будзе зьмяніць з пяці да трох год, бо практыка агульнай забароны паляваньня, напрыклад, на ваверку паказала, што тры гады даволі для размнажэньня ваверкі. Але гэту сыстэму мы толькі пачынаем ажыцьцяўляць у гэтым годзе, а таму нам ня трэба адмаўляцца ад старога мэтаду—агульнай забароны паляваньня на ваверку, тым больш, што ваверка амаль што зьнішчана, як гэта пацьвярджаецца на мясцох. Толькі з наступнага году можна пачынаць адстрэльваць ваверку.

З выдрай справа яшчэ горш. Выдра ў загатоўках займае вельмі малы процант і пад экспорт не падпадае. Таму паляваньне на выдру трэба забараніць ня менш, чым на 2 гады.

Паляваньне на кабана ў 1929 годзе дазвалялася толькі з ведама лясьнічага і то ў абмежаванай колькасьці. Кабан у нас, асабліва ў Мазырскай, Бабруйскай і часткова Менскай акругах разьвёўся ў даволі значнай колькасьці і шкодзіць сельскай гаспадарцы. З гэтае прычыны на некаторых лясьніцтвах паляваньне на дзікаў можна дазволіць вольнае, тым больш, што летась яго забілі ўсяго 5-6 штук.

Пытаньне аб паляваньні на птушак, у нашых умовах, ня мае такога вялікага значэньня, як паляваньне на пушнога зьвера, але і тут патрэбны дакладныя тэрміны паляваньня. Зьмяняць іх часта не гадзіцца, гэта толькі падрывае дысцыпліну сярод паляўнічых. Здабыча качак, цецярукоў і іншых птах у нас настолькі, параўнаўча вядома, нязначна, што ліквідаваць ці зьмякчаць хоць некалькі мясны крызіс імі немагчыма. Лічбы, праўда, ня зусім дакладныя, сьцьвярджаюць гэтае маё меркаваньне. А якая-ж колькасьць здабытых птушак становіцца таварнай? У нас няма зьвестак, але я думаю, што куды менш, чым дабыта.

З гэтага, паўтараю, зусім ня трэба рабіць вываду, што мы не павінны рэгуляваць адстрэл пярнатай дзічы. Тэрміны паляваньня мы павінны такія ўстанавіць, каб павялічылася таварнасьць дзічы. У гэтым годзе, напрыклад, паляваньне на вадаплаваючую дзічыну дазволена з 20 ліпеня. Якія-ж вынікі? У сярэднім у першы дзень паляваньня самы дабычлівы паляўнічы узяў на адну стрэльбу 5-7 качак, або лапуноў, або толькі пачынаючых лётаць. Мяса ад гэт х качак зусім мала, ад паўкілёграма да кілёграма. Аб таварнасьці гэтых качак і гаварыць ня прыходзіцца Такім чынам, пачатак летняга паляваньня з 20 ліпеня замест 1 жніўня трэба прызнаць немэтазгодным. У гэтым годзе большасьць паляўнічых сваю няўдачу тлумачаць тым, што было засушлівае лета і разьвялося шмат браканьераў. А хіба не расьце браканьерства ад таго, што зьмяняюцца тэрміны і аб гэтым не паведамляецца сваячасова на мясцох?

Я сам ведаю некалькі выпадкаў, калі 20 ліпеня білі цецярукоў.

Пару слоў у абарону шэрай курапаткі і глушца. Шэрай курапаткі амаль няма, а глушэц стаў размнажацца. Я катэгарычна супроць адстрэлу шэрай курапаткі і глушца ў гэтым годзе, на глушца можна будзе дазволіць паляваньне праз год-два.

**Сьмірноў.**

# ДА ВЕДАМА НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАХОТСАЮЗУ

Шмат пішацца, што бадзячыя сабакі шкодзяць паляўнічай гаспадарцы больш, чым хто іншы. А ці зроблены якія-небудзь захады. Пісаць мала. Пісаніна так і застаецца на паперы.

Па-мойму, трэба зрабіць наступныя захады. Наркамзем павінен даць загад праз лясьніцтвы і лясныя аддзелы акрвыканкомаў лясной варце зьнішчаць бадзячых сабак у лесе. Лясьнікі гэта рабіць могуць. Яны часта бываюць у лесе і бачаць, як сабакі бродзяць і шкодзяць. Паляўнічая каапэрацыя павінна таксама зрабіць захады перад належнымі ворганамі, каб сельсаветы і міліцыя дапамагалі паляўнічым зьнішчаць сабак. Трэба абвясьціць насельніцтву, каб сабакі былі на прывязі і выводзіліся ў поле толькі на павадкох.

Гаспадароў, якія ня трымаюць сваіх сабак на прывязі, трэба штрафаваць. Вось калі-б мы мелі такія посьпехі, тады-б і дзічы стала куды больш, чым зараз.

А то шмат пішацца аб тэрмінах паляваньня, а які толк ад гэтага, калі сабакі да тэрміну ўсё павыдушаць. Апроч таго, браканьер заб'е зьвера, а пушніну здае у Белдзяржгандаль, дзе зусім і ня пытаюцца, хто здатчык.

Вось дзе корань хваробы.

А тут гавораць аб прыпісцы. Што дасьць прыпіска, калі так будзе цягнуцца на мясцох, калі сабакі будуць усё зьнішчаць да тэрмінаў паляваньня. Я не супярэчу наконт прыпіскі, гэта справа добрая, але вельмі доўга цягнецца гэта гаворка. Мне здаецца, каб установы, якія займаюцца паляўнічай гаспадаркай, ведалі, што робіцца на мясцох, дык гэтага ня было-б. Можна напэўна сказаць, што сабакі больш здабываюць дзічыны, чым паляўнічыя, і скора мусіць прыдзецца паляўнічаць на сабак. **Ю. С. Малевіч.**

**Ад рэдакцыі:** Раённыя т-вы паляўнічых павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на зьнішчэньне бадзячых сабак. Ёсьць закон, што бадзячым сабакам лічыцца не паляўнічы сабака, які бродзіць па паляўнічых угодзьдзях не на прывязі. Такіх сабак трэба зьнішчаць, паводле закону, які апублікаваны ў бюлетэні СНК № 17 за 1927 г. Трэба, урэшце, пакончыць з гэтым злом.

# ЯШЧЭ НЯ ЗЖЫТЫ СТАРЫЯ ТРАДЫЦЫІ

Нідзе, мусіць, горш не абстаіць справа з аховай паляўнічай гаспадаркі, як у нашым Прапойскім раёне, Магілеўскай акругі. Круглы год усе тыя нязначныя запасы дзічы, што яшчэ ёсьць у нас, зьнішчаюцца ўсякімі спосабамі: вясной бадзячыя сабакі губяць маладых качак і зайцаў, разбураюць гнёзды, а з канца чэрвеня браканьеры „афіцыйна“ пачынаюць паляўнічаць за качкамі-паўзунамі, і страляньне спыняецца з наступленьнем цемнаты.

Дастаткова мець які-небудзь „чын“, як, скажам, міліцэйскага, і вы сьмела і безнаказана, на вачох членаў саюзу, можаце паляўнічаць, дзе вам уздумаецца, бяз білета і не захоўваючы тэрмінаў. Ні бюро нашага калектыву паляўнічых, ні члены саюзу ня прымаюць ніякіх мер да ліквідацыі гэтых зьявішч: хто вельмі заняты, хто па старынцы баіцца начальства, а некаторыя, замест таго, каб ужыць рашучыя захады супроць браканьерства, самі браканьернічаюць.

Для прыкладу — толькі для прыкладу, бо такіх прыкладаў шмат — пакажам на сакратара прапойскага нарсуду т. Лісічкіна А.— нават прозьвішча драпежніцкае — і абаронцу таго-ж суду т. Касьценку. На іх суду няма — адзін судзіць, другі абараняе і разам браканьернічаюць. Сёлета яны пачалі паляўнічаць, праўда, бяз стрэльбаў — ім стрэльбы і не патрэбны, бо дзьве сабакі наловяць больш паўзуноў — з канца чэрвеня. Сваё браканьерства яны называюць „навучэньнем“ сабак. Але хіба нікому не вядома, а таксама і ім самім, а тым больш „вопытнаму“ паляўнічаму Касьценку, якім ён сябе лічыць, што сабак па качках ня вучаць, асабліва ў чэрвені і ліпені. Гэта ёсьць стопроцантнае браканьерства, і калі яны самі гэтага не разумеюць, дык трэба ўдарыць каму належыць па іх, ды так, каб другім ня было завідна. Гэта навучэньне цягнецца некалькі дзён і не адзін дзесятак качак становіцца аб'ектам навукі на стале ў „вопытных“ паляўнічых. Такія члены саюзу ня варты і назвы гэтае і іх трэба выкінуць з радоў паляўнічых, як драпежнікаў. Трэба пакласьці канец разгаворам сялян: „от, служачыя, дзякуючы знаёмству, браканьернічаюць і ім сходзіць гэта безнаказана“. **М. Казлоў.**

**Ад рэдакцыі:** Мы чакаем адказу ад Магілеўскага акруговага т-ва, што ім зроблена для зьнішчэньня такіх зьявішч.



У павільёне паляўнічай гаспадаркі.

# Мы павінны будаваць

*(На абгаварэньне)*

Паляўнічыя ячэйкі павінны адыграць галоўную ролю ў будаўніцтве нашае гаспадаркі. Яны павінны цяжар сваёй працы накіраваць на вырашэньне канкрэтных задач, якія зараз стаяць перад паляўнічай гаспадаркай — гэта падняцьце ўраджайнасьці на нашых паляўнічых угодзьдзях, вядзеньне сыстэматычнай культурна - выхаваўчай працы і г. д.

А ці ўсюды ў нас арганізаваны гэтыя нізавыя зьвеньні? Не, ня ўсюды.

А ці працуюць тыя ячэйкі, якія на гэты дзень арганізаваны? Каб атрымаць на гэта пытаньне адказ, зьвернемся да артыкулаў і фактаў „Паляўнічага Беларусі“, дзе ўбачым, што большасьць ячэек або зусім не працуе, або працуе зусім дрэнна.

Справа ў тым, што ячэйкамі ніхто ня цікавіўся і ніякія паказаньні ў працы ім не даваліся. за выключэньнем таго куцага „Палажэньня аб ячэйках“, якое апублікавана ў часопісі „Паляўнічы Беларусі“ № 4 яшчэ за 1929 год. А між тым, ячэйкі павінны падбіраць клясавы склад паляўнічых, уцягваць у нашу каапэрацыю рабочых, беднату, батрацтва, весьці барацьбу з браканьерамі і шкоднікамі паляўнічай гаспадаркі, з драпежнікамі як пярнатымі, так і чатырох і двухногімі, клапаціцца аб тым, каб падняць ўраджайнасьць нашых угодзьдзяў, падрыхтоўваць пушніну і г. д.

Па барацьбе з драпежнікамі ў часы, калі забаронена паляваньне, ячэйкі павінны арганізоўваць брыгады, абыходзіць паляўнічыя ўгодзьдзі і адстрэльваць драпежнікаў і бадзячых сабак. Такім-жа парадкам павінна адбывацца і барацьба з браканьерамі, зьбіральнікамі птушыных яек у вясну, з тымі, хто вылаўлівае малых птах, зайцаў і інш. і разбурвае гнёзды і норы. Паляўнічыя ячэйкі павінны выхоўваць сьвядомых паляўнічых.

Апроч бюро ячэек у будаўніцтве паляўнічай гаспадаркі павінен прыняць удзел і кожны паляўнічы. Паляўнічы павінен адкінуць, як устарэлую, думку, што „ня я, дык другі—на мой век хопіць“ і паліць з сваёй „фузеі“ па ўсяму бягучаму і лётаючаму, часта ня лічачыся з адлегласьцю. Колькі кожны паляўнічы прыносіць шкоды самому сабе і гаспадарцы тым, што часта бярэ на мушку ня ў меру далёка? Ляціць птаха ці бяжыць заяц за 75 мэтраў, ускіне стрэльбу і дубальтуе на „авось ды нябось“. Добра, калі шрот праляціць міма, а то часта бывае, што „шальная шрацінка“ зачэпіць і птаха ці зьвярына забіваецца куды-небудзь у траву ці ў кусты і там без карысьці для паляўнічага гіне. Бываюць і такія паляўнічыя, што не прыстраляюць сваёй стрэльбы, не падбяруць зарадаў да яе, і калечаць дзічыну і зьвера. Весьці барацьбу з гэтымі зьявішчамі можа толькі сам паляўнічы. Кожны паляўнічы павінен ведаць, што ад кожнае пакалечанае і загінуўшае птахі ці зьвера на лета быў-бы вывадак. Кожны паляўнічы павінен ведаць, на якую адлегласьць б'е яго стрэльба, каб не калечыць дзіч. Кожны паляўнічы павінен памятаць, што толькі ён павінен будаваць паляўнічую гаспадарку.

**Н.**

# ДЗІЧЫ СТАНОВІЦЦА УСЁ МЕНШ І МЕНШ

*(Магілёўская акруга)*

Ня гледзячы на раньнюю вясну ў гэтым годзе качак у дзень адчыненьня паляваньня ў Магілеўскай акрузе было шмат ня лётніх. Вясной ня было разьліва рэк, лета спачатку было сухое, шмат балот высахла і тыя вывадкі, якія былі згрупаваліся на нязначнай плошчы ня зусім перасохшых балот, ў першы дзень паляваньня самым драпежным спосабам, пры дапамозе дваравых сабак і ганчакоў былі пагалоўна зьнішчаны.

Калі і надалей будзе так цягнуцца, дык аднэй забаронай вясеньняга паляваньня дзічы не ўберагчы. Ня гледзячы на забарону вясеньняга паляваньня, качак з кожным годам становіцца ўсё менш і менш.

Трэба ўстанавіць цьвёрдыя і разумныя тэрміны паляваньня і не зьмяняць іх, устанавіць нормы адстрэлу дзічы на адну стрэльбу ў адзін дзень.

Ужо пачалося паляваньне на цецярукоў і яны будуць зьнішчацца таксама, як і качкі. Трэба ўзяць пад абарону матак-цяцерак. **В. О.**

Ад рэдакцыі: Згаджаючыся з довадамі В. О., што дзічы становіцца ўсё менш і менш і неабходны тэрміновыя меры, рэдакцыя, аднак, лічыць, што аднымі скарачэньнямі тэрмінаў бяды не паправіш. Трэба наладзіць барацьбу з усімі відамі браканьерства і з шкоднікамі. Трэба будаваць паляўнічую гаспадарку.

## ЗЬНІШЧЫЛІ ТРОХ „МАЦЕРЫХ“

*(Калінкавіцкі раён)*

Калі аблава праводзіцца арганізавана, яна заўсёды дае добрыя вынікі. Паляўнічыя в. Якімаўка высачылі логавы. У міг уся вёска ведала аб аблаве. Праўда, гультаі лепш вылежваліся на печы, чым пайсьці ў загоншчыкі. Але паляўнічыя ўсё-ж рашылі аблаву правесьці і правялі!

Сяліванчык Пятрок забіў старую ваўчыцу з чатырмя малымі. Мазуркевіч Базыль — старую без малых, а Ганчарэнка Міканор—маладую. **Новікаў Базыль.**

## ВЫРЭЗУБ

Мала хто з рыбаловаў Беларусі ведае пра гэту вельмі цікавую рыбу, а між тым вырэзуб ёсьць амаль ва ўсіх рэчках Беларусі.

Вырэзуб вельмі трусьлівая рыба. Мала хто з рыбаловаў Беларусі можа пахваліцца здабычай вырэзуба. Між тым ёсьць р. Віхра, каля гор. Амсьціслава, дзе вырэзуба ня толькі ловяць вудай на звычайнага чарвяка, але бязьлітасна зьнішчаюць восьцямі ў першыя дні мая, калі вырэзуб нерастуе між каменьня ля Каробінскага млыну, зьбіраючыся сюды з усёй рэчкі.

Вырэзубы бываюць ад 3 да 9 клгр. **Сом.**

# За сапраўднае абслугоўваньне паляўнічых мас

**У сувязі з ліквідацыяй акруг і павялічэньня дзейнасьці і значэньня мясцовых органаў—пытаньне аб арганізацыі і рабоце сельскіх органаў паляўнічай каапэрацыі павінна мець большае значэньне. Сельскія калектывы павінны арганізоўвацца ня толькі ў адміністрацыйных сельскіх цэнтрах, а і ў калгасах і паасобных вёсках.**

## СЕЛЬСКІЯ І ГАРАДЗКІЯ КАЛЕКТЫВЫ ПАЛЯЎНІЧЫХ

Ужо да гэтага часу паляўнічая каапэрацыя ўсьвядоміла тую ідэю, што добра будаваць сваю сыстэму і працу можна толькі прасоўваючы свае органы бліжэй да паляўнічых мас. Ужо ў 1929 годзе было выдадзена палажэньне пра сельскія ячэйкі паляўнічых і з таго часу ячы пачалі арганізоўвацца. Цяпер мы ўжо маем некаторы вынік працы сельскіх ячэек, які мы можам падагуліць, як станоўчы, і пайсьці далей у гэтым кірунку прасоўваньня органаў паляўнічай каапэрацыі бліжэй да мас.

Пытаньне аб арганізацыі і рабоце сельскіх органаў паляўнічай каапэрацыі набывае яшчэ большае значэньне цяпер, калі, згодна прапановы XVI зьезду партыі, ліквідуюцца акругі і павялічваецца дзейнасьці і значэньне мясцовых органаў — раённых і сельскіх.

Калі яшчэ пры існаваньні акруговых органаў паляўнічай каапэрацыі прыйшлі да вываду, што будаваць яе працу і паляўнічую гаспадарку можна з посьпехам толькі апіраючыся на мясцовыя сельскія органы, то цяпер, з ліквідацыяй акруговых таварыстваў, замест якіх павінны быць арганізаваны раённыя таварыствы паляўнічых, значэньне былых раённых калектываў павінны атрымаць сельскія органы, якія трэба прасунуць бліжэй да паляўнічых мас: у калгасы і паасобныя вёскі.

Калі да гэтага часу першапачатковаю адзінкаю ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі было акруговае таварыства, а яго органамі на мясцох былі раённыя калектывы (бюро) і далей у апошні год сельскія ячэйкі, то цяпер значэньне акруговых таварыстваў набываюць раённыя; да сельскіх калектываў павінны перайсьці правы і абавязкі раённых калектываў. Пры гэтым сельскія калектывы паляўнічых павінны арганізоўвацца ня толькі ў адміністрацыйных сельскіх цэнтрах, а і ў калгасах і паасобных вёсках, дзе маецца ня менш за 5 членаў паляўнічай каапэрацыі.

Прасоўваньне органаў паляўнічай каапэрацыі ў калгасы і паасобныя вёскі мае вялікае значэньне ня толькі ў агульнай каапэрацыйнай паляўнічай сыстэме, а таксама і ў справе рацыянальнага вядзеньня паляўнічай і зьвераводнай гаспадаркі і культурнага абслугоўваньня паляўнічых мас.

Да гэтага часу стан паляўнічай гаспадаркі і культурнага абслугоўваньня мас у кожным паасобным месцы, вёсцы, угодзьдзі быў не зайздросны. Раённыя калектывы (бюро) паляўнічых кіравалі гаспадаркаю і абслугоўвалі паляўнічых па ўсім раёне. Пры вялікіх прасторах дзейнасьці і колькасьці паляўнічых угодзьдзяў, часта пры значным ліку паляўнічых у раёне, паасобныя вёскі ў справе паляўніцтва былі неарганізаваны, угодзьдзі заставаліся бяз догляду, культурнае абслугоўваньне мас кульгала на абедзьве нагі. Аднаму гаспадару на ўсім раёне нельга было за ўсім дагледзіць, аб усім паклапаціцца.

З арганізацыяй сельскіх ячэек гэта справа трохі палепшылася, але ня зусім, бо ня ўсюды ёсьць сельскія ячэйкі і, апрача таго, раёны іх дзейнасьці застаюцца яшчэ вялікімі, так, што сельская ячэйка яшчэ ня можа ахапіць кожнага паляўнічага ўгодзьдзя.

Трэба арганізаваць такую сыстэму органаў паляўнічай каапэрацыі, каб ніводная вёска, калгас, паляўнічае ўгодзьдзе ня былі неарганізаванымі і без гаспадарчага дагляду; каб ніводны паляўнічы не заставаўся бяз культурнага абслугоўваньня сіламі свайго паляўнічага калектыву. У кожным месцы, у кожным паляўнічым угодзьдзі павінен быць свой пэўны блізкі да яго гаспадар; кожны паляўнічы праз блізкія да яго органы павінен набываць веды па паляўніцтву і культурна абслугоўвацца. Усе гэтыя пытаньні павінна вырашыць і ўсе недахопы ў працы і вядзеньні паляўнічай гаспадаркі павінна зьнішчаць арганізацыя сельскіх калектываў і прасоўваньне органаў паляўнічай каапэрацыі бліжэй да мас.

Тыя-ж мэты мае і арганізацыя гарадзкіх калектываў паляўнічых пры паасобных прадпрыемствах—заводах, фабрыках, з тэй толькі розьніцай ад сельскіх, што да гэтага часу гарадзкія калектывы паляўнічых не прымацаваны яшчэ да пэўнай сельскай мясцовасьці і ўгодзьдзяў, на якія-б яны пашыралі свой гаспадарчы ўплыў і не зьвязаны яшчэ з сельскімі калектывамі паляўнічых для сумеснага вядзеньня культурнай работы сярод паляўнічых. Нам здаецца, што гэта пытаньне павінна стаць у недалёкім будучым у парадак дню работы паляўнічай каапэрацыі.

Пытаньнем аб рэарганізацыі сельскіх органаў паляўнічай каапэрацыі і аб арганізацыі гарадзкіх калектываў паляўнічых зусім своечасова занялося праўленьне „Белкохотсоюза", якое ў апошні час распрацоўвае новае палажэньне пра сельскія і гарадзкія калектывы паляўнічых.

У гэтым новым палажэньні значна пашыраюцца правы сельскіх і гарадзкіх калектываў паляўнічых, на іх ускладваюцца абавязкі па рацыянальным вядзеньні паляўнічай і зьвераводнай гаспадаркі, па ахове паляўнічых угодзьдзяў і барацьбе з драпежнікамі і браканьерствам, па культурнаму і матэрыяльнаму абслугоўваньню паляўнічых і інш.

Застаецца толькі пажадаць, каб пры зацьверджаньні палажэньня пра сельскія і гарадзкія калектывы паляўнічых правы іх былі як мага больш пашыраны і каб яны чым хутчэй былі арганізаваны ўсюды, асабліва ў калгасах, дзе будуецца новая культурная сацыялістычная сельская гаспадарка.

**Тамаш.**

# Яшчэ аб рабоце паляўнічых ячэек

У сучасны момант ячэйкі павінны стаць будаўнікамі паляўнічай гаспадаркі. А каб яны былі сапраўды такімі, нам неабходна зараз-жа наладзіць культасьветную работу ў сыстэме паляўнічай кааперацыі. Апошні пленум праўленьня „Белкохотсоюзу“ таксама адзначыў, што культасьветная работа за апошнія гады кульгала „на ўсе чатыры нагі“ і даў дырэктыву рабочай тройцы праўленьня зрабіць належныя захады да зьнішчэньня гэтага, ні ў якім разе недапушчальнага зьявішча.

Якім чынам лепш за ўсё ў сучасны момант выхоўваць сьвядомага савецкага паляўнічага?

Адказ тут можа быць толькі адзін—паляўнічую кнігу ў паляўнічыя ячэйкі. Ставіць даклады, чытаць лекцыі, паказваць карціны на паляўнічыя тэмы (па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі, ахове прыроды, арганізацыі паляўнічай гаспадаркі) у паляўнічых ячэйках і нават больш буйных аб'яднаньнях мы, пакуль што, ня маем ні сіл, ні сродкаў, ні магчымасьцяй.

За апошнія два-тры гады вырас вялікі попыт на паляўнічую кнігу. Гэта сьведчыць 17-тысячны тыраж нашае часопісі „Паляўнічы Беларусі“. Палепшылася і якасьць часопісі. Паляўнічы смагна хапаецца за кожнае слова, за кожны артыкул і праз часопісь мы павінны выхоўваць і вучыць паляўнічага. Для гэтага „Паляўнічы Беларусі“ павінен запаўняцца матэрыяламі ня толькі аб спосабах паляваньня і дзе, які паляўнічы забіў качку ці зайца раней тэрміну—гэта таксама трэба—а галоўным чынам даваць дакладныя паказаньні па будаўніцтву і вядзенью прамысловай паляўнічай гаспадаркі.

Апроч таго, праўленьню „Белкохотсоюза“ трэба паклапаціцца аб выданьні паляўнічых брашур. Да гэтага часу выдавецтвам „Белкохотсоюза“ выдана ўсяго чатыры брашуры, адзін насьценны каляндар і адзін настольны. З чатырох брашур толькі адна „Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР“ у некаторай меры закранае непасрэдна паляўнічую гаспадарку, а дзьве напісаны аб спосабах паляваньня і здыманьня скурак і апошняя аб гадоўлі трусоў. Бязумоўна, такая дзейнасьць выдавецтва „Белкахотсаюзу“ ня можа быць прызнана здавальняючай. Нам трэба выдаць цэлы шэраг карысных і неабходных брашур—на беларускай мове—па пытаньнях: 1) будаўніцтва і вядзеньня прамысловай паляўнічай гаспадаркі, 2) што такое запаведнік і заказьнік і як у іх праводзіць работу, 3) па адстрэлу шкодных драпежнікаў і далейшыя шляхі і лёс паляўнічай гаспадаркі.

Усю паляўнічую літаратуру—часопісь і брашуры—трэба прасоўваць у нізавыя паляўнічыя арганізацыі, паляўнічыя ячэйкі на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах і вёсках. Для гэтага мы павінны наладзіць распаўсюджаньне літаратуры. Яшчэ і дагэтуль у нашых магазынах і крамах райбюро кніжка і часопісь займаюць апошняе месца, звалены дзе-небудзь пад прылаўкам, валяюцца ў пыле, у той час, калі паляўнічы шукае добрую кніжку ці часопісь, а часьцей за ўсё магазыны ня лічаць сваім абавязкам прасоўваць кніжку ў паляўнічыя масы.

Такім адносінам да літаратуры, да галоўнага аружжа культасьветнай работы, трэба пакласьці канец. Кніжка павінна быць у кожным магазыне, у кожнай краме, у райбюро, паляўнічай ячэйцы, бібліатэцы. Нават больш—паляўнічая кніжка павінна быць у хаце-чытальні вёскі, калгасу, саўгасу, на заводзе і прадпрыемстве. Кніжку трэба прасоўваць у масы, раіць і дапамагаць выбраць добрую кніжку паляўнічаму і наогул аматару прыроды. Фармальным, бюракратычным адносінам да прасоўваньня кніжкі ў масы павінен быць пакладзен канец.

Толькі тады, калі кожны член паляўнічай ячэйкі, кожны паляўнічы будзе ведаць, як будаваць паляўнічую гаспадарку, як рацыянальна выкарыстаць багацьце прыроды, а такія веды можна чарпаць толькі з кніжак, мы зможам правільна пабудаваць і весьці сваю гаспадарку.

У кожнай паляўнічай ячэйцы павінны быць кнігі па ўсіх пытаньнях паляўнічай гаспадаркі. Трэба наладзіць культасьветную працу сярод паляўнічых мас—а зрабіць гэта магчыма толькі праз кніжку. Бяз гэтага мы не навучымся будаваць сваю гаспадарку.

**Свой.**

# Што сказаў пленум Бабруйскага Акртаварыства

Пленум Праўленьня Бабруйскага акртаварыства два дні—1 і 2 ліпеня працаваў у напрамку, які быў даны пленумам Цэнтральнага праўленьня. На пленуме яскрава ўскрылася непадрыхтаванасьць акруговых т-ваў да абслугоўваньня пэрыфэрыі паляўнічай кааперацыі. Пленум устанавіў, што акруговыя т-вы аджылі, непатрэбны, мёртвы, бюракратычны і непрацаздольны.

Так, у Бабруйскай акрузе да гэтага часу няма ніводнага раённага таварыства, пераведзенага на гаспадарчы рахунак, не арганізавана ніводнага трусятніка і нават ніхто ня ведае, ці ёсьць у Бабруйскай акрузе трусы. Кантрактацыя трусоў не праводзілася. Каса ўзаемадапамогі не працуе і амаль не арганізавана. Заказьнікі таксама не працавалі. Ячэйкі ў калгасах не арганізаваны і шмат іншых недахопаў выяўлена пленумам.

Адзінае дасягненьне—гэта чыстка радоў паляўнічай кааперацыі, якая заканчваецца і дала добрыя вынікі. Чыстка ўзьняла настрой паляўнічых. У апошніх галінах праца акртаварыства бязумоўна нездавальняючая.

Выступаўшыя на пленуме таварышы пацьвердзілі, што акруговае праўленьне працавала кепска не таму, што склад яго разаслалі па калектывізацыі і іншых кампаніях, як гэта казалі праўленцы, а ў тым, што сама сыстэма працы паляўнічай кааперацыі зьяўляецца мёртвай і не адпавядае жыцьцю.

Пленум прапрацаваў пытаньне аб пераходзе раёнаў на гаспадарчы разрахунак, аб разьвіцьці гадоўлі трусоў і аб узмацненьні дзейнасьці паляўнічай кааперацыі пры прамысловай зьверагадоўлі.

**Удзельнік.**

# КАЛІ ЗАКРЫЧЫЦЬ ЖУРАВЕЛЬ

*(Уражаньні ад паляўнічага павільёну выстаўкі)*

Сонца садзіцца. Касыя праменьні яго яшчэ гуляюць па верхавінах хвой, потым, разам з тым, як арбіта сонечнага круга ўсё пашыраецца і пашыраецца, яны спаўзаюць ўніз і, урэшце, зьнікаюць за ваколіцай. Жыцьцё паступова замірае. Людзі сьпяшаюцца папасьці на трамвай. Адзінокі, як клок валасоў на лысай галаве, хваёвы лясок утапае ў цемры. У ляску паляўнічы павільён Усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

Каля адзінаццаці гадзін, калі на захадзе сходзіць загар і на небе загараюцца зоры, выстаўка заціхае, павільёны зачыняюцца.

Недзе, унізе, рыгае і дрыжыць ліхаманкава горад, скупа кідаючы сьвет на вузкія вуліцы. Тады ціха шэпча ў верхавіньні хвойнік, між якога адна каля аднэй пабудаваны клеткі паляўнічага павільёну. Між ствалоў хвой рассыпаным срэбрам гуляюць праменьні месяца. Над клеткамі ярка гарыць электрычнасьць. І калі ўсё заціхае навокал, ажываюць дзікія інстынкты зьвераў і птушак.

Тады доўганогі журавель, тамімы нудой па сваіх братох і няволяй, аглашае выстаўку сваім доўгім, музычным: „к-у-р-р-л-ы! к-у-р-л-ы...к-у-р-р-р...к-у-р-р-л-ы!" і гукі гэтыя мэлёдычнай песьняй лясоў ляцяць у другія павільёны і трацяцца недзе за ваколіцай, потым зноў нараджаюцца, і зноў, пакуль ноч не разгорне свае крылы над зямлёй. Тады журавель, схаваўшы пад крыло доўгую дзюбу, станавіцца на адну нагу і замірае ў такой постаці на ноч. У гэты час цяжка пазнаць, што птаха жывая.



Журавель.

Побач з ім, у такой самай постаці, стаіць яго блізкі сародзіч — бусел.

Адзін з рэдкіх экспанатаў выстаўкі—бабёр. Бабёр у Эўропе захаваўся ў невялікай колькасьці толькі ў СССР, дзе ён узят пад поўную ахову закону і зусім забаронен да адстрэлу. У Беларусі бабровыя хаткі ёсьць на рацэ Бярэзіне, Сажы, Лабжанцы, на возеры Пяль і інш. Бобр вельмі каштоўны зьвер сваёй, усім вядомай, „бабровай струёй", і прыгожым мехам. Бобр больш начны, чым дняўны зьвер. У дзень ён ляжыць у гнязьдзе сваёй хаткі, з наступленьнем цішыні выходзіць паплаваць, пакупацца ў вадзе.

Калі ўсё заціхае навокал, бабёр, паплаваўшы, становіцца на заднія лапкі і мыецца. Для жыцьця бабра небходны маладыя пабегі лазы і іншай драўніны, кару якіх ён згрызае сваімі зубамі — разцамі і аб'ядае мяккае гальлё.

Цікавым экспанатам зьяўляецца і мядзьведзь. З гэтым зьверам чалавек яшчэ ў эпоху драўлянога веку вёў барацьбу з дубовым сукам у касматых руках. І чалавек перамог. Зараз у Беларусі мядзьведзя лічаныя адзінкі. Мядзьведзь — зьвер жвавы і страшэнны, але тут ён сыт і гультаяват, бо набіты жывот патрабуе спакою, а спакой разьвівае гультайства. А вось шэры „абшарнік" беларускіх лясоў—воўк. Прышчурыўшы свае вузкія зладзейскія вочы, ён глядзіць не верхавіны сасонак, дзе чутны яшчэ галасы на заснуўшых галак. Воўк заўсёды, здаецца, галодны. Накарміць яго цяжка.

У дзьвюх клетках, побач з воўком, лісіцы. Гэта сварлівыя зьвяркі, як гандляркі зелянінай на рынку. Тысячу раз вы падыходзьце да клетак і тысячу раз—адзін і той-жа малюнак — грызьня з-за якога небудзь кусочка.

Праз некалькі клетак малюнак мяняецца. За сеткай з дроту сядзяць магутныя птахі, якія зараз яшчэ упрыгожваюць гэрбы імпэрыялістычных дзяржаў — арлы. Ня гледзячы на вельмі драпежніцкі інстынкт, арлы жывуць паміж сабой мірна. Арлы прыгожы, горды, сур'ёзны.

Трохі далей, як істукан, сядзіць на палцы, пакладзенай праз клетку, філін і „лупае" вачыма. Далей плаваюць качкі. Схіліўшы на пярэднія лапкі галоўкі, адзін каля аднаго, сядзяць зайцы шаракі. Па сетцы, як па суччах, коўзаецца вавёрка. У асобных клетках смакуюць жвачку дзікія козы. І здаецца яны і тады-б займаліся гэтай справай, каб тысячу дзён і начэй падрад ня бачылі ў вочы таго, з чаго складаецца іх жвачка. Трэба адзначыць, што, ня гледзячы на гэта, козы ўсё-ж такі вельмі худыя; магчыма ад таго, што ім не хапае свабоды.

Вельмі багата абстаўлена і другая частка паляўнічага павільёну. На сярэдзіне сьветлага, даволі вялікага пакою, вялічава красуецца чучала лося, галава якога ўпрыгожана найлепшымі рагамі. Трохі з боку, падняўшы галаву і аскаліўшы клыкі, нібы паранены, сядзіць вялізарнейшы дзік. На версе пад стольлю на суку з бязьмернай злосьцю, як жывая, рысь.Калі ўваходзіш у павільён, здаецца, што рысь зараз-жа кінецца на вас і моцнымі капцюрамі ўп'ецца ў горла. На зайцу, як жывы, сядзіць беркут. Ёсьць і „гэнэрал Таптыгін". Абапёршыся

# Паляўнічы павільён на выстаўцы



Воўк



Агульны від зьвярынца



Павільён пушніны



Арол

да сьценкі, ён стаіць на задніх нагах і глядзіць з пагрозай на пакой, нібы назірае за парадкам.

Тут знойдзецца і заяц—бяляк, і вавёркі, розныя зьвяры—альбіносы, словам „усякай твары па пары“.

Цікава падабраны і расстаўлены прылады паляваньня. Шмат стрэльбаў розных вякоў і эпох. Нават пастаўлен старасьвецкі мушкет, з якім на швэдаў хадзілі. Уверх, каля чучала лося, уздымаецца руля нейкай вельмі вялікай стрэльбы. Гаворачь—гэта ня словы тлумача—што з гэтай стрэльбы Пётра Вялікі страляў дуплякоў. Страляць з такой стрэльбы мог толькі „Вялікі“, бо, каб падняць яе,

## ...сельскае гаспадаркі і прамысловасьці



Лясны павільён



Мядзьведзь




Паляўнічыя стрельбы розных сыстэм.

трэба есьці па 3 цэрабкопскіх абедаў за адзін раз на працягу некалькіх год.

Прыгожа разьвешана пушніна, здабываемая ў Беларусі. Два бутафорных паляўнічых у фарбах страляюць уверх і з іх стрэльбаў ляцяць скуркі зьвяроў.

Ад выстаўкі — наогул і да павільёну — у прыватнасьці самае найлепшае ўражаньне.

Больш за ўсё мне спадабаўся журавель. Калі сонца садзіцца, ён напамінае сваім крыкам аб наступленьні ночы. А на зорцы, чуць сьвет прабіваецца на ўсходзе, ён будзіць яе сваім: „кур-р-лы! кур-р-р... ку-р-р... кур-р-лы“!

**М. Я. Целеш.**



Павільён пушніны

# САВЕЦКАЯ СТРЭЛЬБА ТАННАЯ І ДОБРАЯ

## Аб новых стрэльбах савецкай работы

Нашы заводы за апошнія часы выпускаюць адзін гатунак двохрольных ламанак узору В. Стрэльбы гэтыя 16 калібра, для гільз даўжынёй 70 м/м, левая рулі чок, правая цыліндр, замкі падкладныя, затвор Грынера. Стрэльбы гэтага ўзору вельмі добра зроблены, з добрага матэрыялу і з здавальняючым боем. Кошт застаецца ранейшы—125 руб.

У сучасны момант пачаты падрыхтоўчыя работы да выпуску двохрульных ламанак 12 калібра. Яны будуць зроблены па тыпу ўзору В. Калібр 16 будзе вырабляцца таксама. Стрэльбы гэтых калібраў будуць выпускацца на рынак у большай колькасьці, чым да гэтага часу, бо попыт на недарагія двухдульныя ламанкі 12 і 16 калібра будзе задавальняцца стрэльбамі савецкага вырабу.

У далейшым мяркуецца выпусьціць недарагую бязкуркоўку і апроч 12 і 16 калібраў, даць 20 калібр, але калі гэта будзе ажыцьцёўлена—пакуль што цяжка сказаць напэўна.

З аднарульных ламанак вырабляюцца зараз дзьве сыстэмы: Джонсона і Кочатава. З іх добрай зьяўляецца сыстэма Джонсона, вядомая ў нас пад маркай „Іжаў-Джонсона". Затвор з верхнім рычагом, вельмі моцны і доўгавечны. Сільны выкідацель і вельмі добры сярэдні замок. Ложа вельмі моцная, таму што скрозь ложу і шыйку да рульнай каробкі праходзіць унутраны скразны прут з сталі, які прыцягвае шрубам ложу ў калодцы і значна ўзмацняе ложу ў шыйцы. Сьвідроўка рулі, на жаль, толькі цыліндрычная. Калібр дагэтуль быў толькі 20 для гільз у 70 м/м. Зараз гэтага гатунку стрэльбы выпушчаны і 12 калібра. Цана пакінута цьвёрдая: 45 руб. Нашы Джансоны 12 калібра ўяўляюць сабой вельмі добрыя, моцныя і надзейныя стрэльбы. Можна толькі пажадаць, каб падобныя стрэльбы былі выпушчаны і з рулямі сьвідроўкі чок, якая дае лепшы бой пар ўнальна з цыліндрам.

Аднарульная стрэльба сыстэмы Кочатава, наадварот, куды горш стрэльбаў Джансона і горш яна, галоўным чынам, па сваёй непрактычнай канструкцыі: затвор, замок, цаўё, спуск—усё горш, чым у джансонаў. З боку калодкі ёсьць рычаг для падняцьця ўнутранага курка—прыстасаваньне, даўно забытае ў старых сыстэмах і няэручнае тым, што такі бакавы рычаг чапляецца за адзежу, веткі і г. д. і працірае адзежу паляўнічага. У аднарульных стрэльбах Качатава пажадана было зьмяніць гладкую рулю на нарэзную. Для гэтай мэты спраектаваны былі нарэзныя рулі двух узораў, адзін пад патрон былой вайсковай бярданкі (42 калібра), другі—пад дробнакаліберны—22 кал. бакавога агню. Аднак, нарэзныя рулі так і не зьявіліся ў продажы.

Для нас карысна была-б толькі запасная дробнакаліберная руля, пры якой падобная цэнтральная аднарульная стрэльба магла-б служыць то як шратавік, то ў якасьці дробнакалібернай вінтоўкі.

Падобныя запасныя дробнакаліберныя рулі трэба было-б выпусьціць да аднарульнай ламанкі Іжаў-Джансон, як больш удасканаленай і практычнай сыстэмы. Вядома, нарэзная рулі павінна быць з добрым пад'ёмным прыцэлам.

З шомпальных стрэльбаў трэба адзначыць танную аднарульную стрэльбу з стальной руляй 28 калібра і новым падкладным замком паляўнічага ўзору Ложа бярозавая. Руля добрай сталі, бо перароблена з трохлінейнай вінтоўкі. Гэта стрэльба простай, але добрай і моцнай работы, лёгкая, стальныя часткі добра закалены, замок зроблен добра, калёны, бой здавальняючы, а кошт усяго 16 руб. Шомпалоўка гэта заслугоўвае ўвагі з боку аматараў недарагіх дробнакаліберных аднарульных стрэльбаў. Яна надзейней бярданкі вырабу саматужнікаў, лепш б'е, ды і зарады абыходзяцца куды дзешавей, чым з бярданкі. Гэта стрэльба прызначана для прамысловага паляваньня, для страляньня, галоўным чынам, белак, рабчыкаў і г. д.

Шкада, што няма падобных стрэльбаў 16 і 20 калібра.

Цэны—усе розьнічныя маскоўскія.

**Холмскі.**

# Прызавую стральбу ў масы

У нашай часопісі ўжо пісалі, што прызавыя стрэльбы па саюзу паляўнічых ня досыць добра арганізаваны, што ў стральбе ўдзельнічаюць звычайна асобы, абвешаныя жэтонамі. У прыклад прыводзілі віцябдян.

Я зноў-жа пра Віцебскае т-ва паляўнічых. Каму не вядома, што ўстаноўка „мастацтва для мастацтва"—аджыло свой век. А вось Віцебскае т-ва паляўнічых арганізоўвае стральбу для стральбы. Стральба ў Віцебску праводзіцца штогод па два разы, але страляюць там усе толькі высока-прэміраваныя асобы. Страляць яны ўмеюць добра, бо як-жа ім ня страляць, калі яны часта практыкуюцца. Агняпрыпасаў у іх хапае, шроту шасьцёркі ёсьць, а вось, калі Гарадокскі калектыў 25 мая задумаў правесьці прызавую стральбу, дык яму прыслалі шроту № 4, а талерачкі Гарадок атрымаў праз два дні пасьля стральбы. Вядома, што пры такім становішчы на вёсцы стралкоў знойдзецца мала, а калі і ёсьць, дык звычайна па стрэльбу ў Віцебск ня едуць. Папершае, ехаць туды дарага каштуе, па-другое, прыехаўшы, як паглядзіць вясковец на віцебскіх стрэлмайстраў, дык струсіць і не страляе.

Уся паляўнічая арганізацыя павінна перабудаваць сваю працу ў тым напрамку, каб страляла, вучылася страляць уся паляўнічая маса. З гэтай мэтай, мне здаецца, сёлета трэба арганізаваць раённыя спаборніцтвы па стральбе, правёўшы стральбу сумесна з Асаавіяхімам, з прафсаюзамі.

Пры правядзеньні акруговых спаборніцтваў, а таксама ўсебеларускіх павінны быць арганізаваны каманды з лепшых стралкоў раёнаў, а ня толькі акруговых гарадоў. А ў раёне добрыя стралкі ёсьць.

**Ю. Б-сь.**



На выстаўцы. У павільёне паляўнічых.

# Палепшыць якасьць гільз

Перада мной пустая каробка з-пад зялёных бумажных гільз, цаной чатыры рублі за сотню. На каробцы напісана: паляўнічыя бумажныя гільзы, шматстрэльныя. Маскоўскі шроталіцейны завод. 100 шт.

Гэтая сотня гільз была ўзята мной для выяўленьня іх якасьці. Пасьля першых стрэлаў амаль 50 проц. (45 шт.) аказаліся зусім няпрыгоднымі для новай набіўкі, бо прагарэлі ў месцы яднаньня кардону з меднай галоўкай і ў шмат з іх картон гільзы стаў вольна хістацца ў яе галоўцы. Пры страляньні новымі (яшчэ нястрэлянымі) гільзамі было пяць асечак, з прычыны таго, што былі крыва ўстаўлены накавальні.

Тыя з гільзаў, якія магчыма было набіць у другі раз, асечак не давалі, але пасьля стрэлу ня толькі ў галоўцы, але і па шву, і па ўсім кардону павыступілі наскрозь чорныя кропкі ад порахавага нагару

Больш двох стрэлаў ня вытрымала ні адна з гэтых „шматстрэльных“ гільз. Апроч таго, некаторыя з іх пакарабіліся пасьля першага стрэлу, што не давала магчымасьці зноў набіць іх.

Страляючы па дупэлю з-пад стойкі, зусім на чыстым месцы, я зрабіў чысты промах, які прышлося паправіць другім стрэлам. Толькі адчыніўшы стрэльбу, каб зьмяніць стрэляную гільзу, я зразумеў прычыну непапраўнага промаху. На зямлю вылядела медная галоўка гільзы, а ўся кардонная яе частка выляцела з рулі разам з набоем шроту. Рулі маей бяскуркоўкі чокавай сьвідроўкі і прадукцыя маскоўскага шроталіцейнага заводу магла абыйсьціся для мяне дорага.

Страляў я чорным, сібірскім шротам, адборным, ленінградзкага Ульянаўскага заводу. На порах клалася два войлачных, каліберных, прасаленых пыжа дзяржаўнага Маскоўскага шроталіцейнага і патроннага заводу. На шрот тонкі картонны пыж і гільза аккуратна закручвалася машынкай.

У апошнія гады, да паступленьня ў продаж выпрабаваных мной зялёных гільз, мне прыходзілася страляць і ружовымі, і шэрымі і карычнева-чырвонымі гільзамі ранейшых выпускаў нашых сучасных патронных заводаў. Асечкі, праўда, таксама былі, але вольнага хістаньня кардоннай іх часткі ў меднай галоўцы я не назіраў і ў сярэднім яны вытрымлівалі тры, а некаторыя і чатыры стрэлы. Здавалася-б, што з разьвіцьцём індустрыі нашай краіны, якасьць прадукцыі, выпускаемай нашымі заводамі павінна з году у год падвышацца. На справе-ж, як відаць, зусім іншае.

Дарагія і кепскія былі кардонныя гільзы першых выпускаў. Тое-ж самае паведамляе т. Бальшакоў у № 2 „Охота и Природа , за гэты год аб шэрых гільзах патрубтрэста ў Маскве, атрыманых „Леноблозотсоюзом“, з якіх 99 проц аказаліся зусім няпрыгоднымі.

Будзем спадзявацца, што суровая самакрытыка і шырокая хваля сацыялістычнага спаборніцтва, абхапіўшыя ўсе галіны народнае гаспадаркі, зьнішчаць гэтыя ненармальныя зьявішчы, і паляўнічы СССР, першы ў сьвеце будаўнік паляўнічай гаспадаркі на сацыяльна-калектыўных пачатках, атрымае, урэшце, паляўнічыя прыпасы і прылады добрай якасьці. Мы павінны разглядаць нягодную прадукцыю, як шкодніцтва і злачыннае псаваньне вельмі неабходнай і дарагой для нас дэфіцытнай сыравіны.

**А. Лаўроў.**



На выстаўцы. Казуля.

# Менскі ЦРК зрывае загатоўку дзічы

Недахопы ў рабоце спажывецкай каапэрацыі адзначалі і на апошнім партыйным і каапэрацыйных зьездах і на сходах пайшчыкаў урэшце. Гэтыя недахопы мы штодзенна адчуваем у сталоўках, крамах, ларках. Але для нашага Менскага ЦРК гэта як з гуся вада. Вось апошні прыклад неарганізаванасьці і галавацяпства цэрабкопаўскага апарату.

У зьвязку з недахопам мяса Белкаапсаюз надумаўся, урэшце, хоць сёлета загатаўляць для спажывы дзічыну. Ідэя добрая і карысная з усіх бакоў. Каму-ж, як не каапэрацыі заняцца загатоўкай дзічыны?

Праўда, з некаторым спазьненьнем, толькі 9 ліпеня Белкаапсаюз зрабіў з „Белкохотсоюзом" дагавор на загатоўку дзічыны. Да сэзону паляваньньня, які ў гэтым годзе пачаўся 20 ліпеня, заставалася мала часу на арганізацыю гэтай справы. З гэтай прычыны першыя дні паляваньня на качак ня далі значных вынікаў у загатоўцы дзічыны. Але да 1-га жніўня, калі пачалося паляваньне на ўсіх птушак, было даволі часу, каб наладзіць справу з загатоўкаю і прыёмкаю забітай дзічыны ад паляўнічых.

Але Менскі ЦРК, відаць, мае шмат мяса, што ня толькі 20 ліпеня, але і 3 жніўня не арганізаваў прыёмкі дзічыны ад паляўнічых.

3-га жніўня раніцою, я, вярнуўшыся з паляваньня, набраўшы поўную сетку цецярукоў і качак (каля 10 кілё), пайшоў здаваць у ЦРК па абвешчаным у Саюзе Паляўнічых адрасе (вул. Лекерта 16). Хоць адрас быў абвешчан не дакладны, але я знайшоў тую мясную краму ЦРК, дзе нібы павінны былі прымаць ад паляўнічых дзічыну. Краму я знайшоў, але толку з гэтага ня выйшла ніякага. Як мне там растлумачылі, крама дзічыны ня прымае і пра гэта нічога ня ведае, вось у тым-жа двары ёсьць склад сала, дык можа там узялі-б вашых птушак, але сёньня, бачыце, нядзеля і склад зачынены. „Відаць нашы птушкі нікому не патрэбны, лепш нясеце іх дамоў, пакуль не пратухлі",—пасьмяяліся нада мной прадаўцы мясной крамы.

Абураны такой арганізацыяй справы, страціўшы дарэмна паўтары гадзіны часу і выкінуўшы амаль што ў глум 10 кілё мяса, прыходжу ў „Белкохотсоюз" і з абурэньнем наракаю на ЦРК і паляўнічыя арганізацыі за такія парадкі. А ў „Белкохотсоюзе" мяне супакоілі:

„Да ты не хвалюйся, ня ты першы. Учора і сёньня ўжо былі выпадкі, калі ЦРК ня прымала ад паляўнічых дзічыны. Пішы пра гэта нам, а мы напішам у ЦРК".

Добрая пацеха для мяне і спажыўца: я пацешыўся тым, што я ня першы дарэмна насіў здаваць дзічыну ЦРК, а спажывец няхай абліжыцца, прачытаўшы мой артыкульчык і тую паперку, якая будзе ці ўжо напісана ў ЦРК „Белкохотсоюзом". Будзем замест мяса карміцца пісанінай пра цэрабкопаўскія галавацяпствы.

„Белкохотсоюз" павінен напісаць ЦРК яшчэ пра тое, што на вярбе ігрушы не растуць і што сёлета другога жніўня месяца ня будзе. Калі ЦРК неарганізавала прыёмку дзічыны ад паляўнічых у жніўні, дык у лістападзе ня будзе загатоўлена дзічыны ніводнае кілё, бо хоць цэрабкопаўскія галавацяпы, відаць, і вельмі „разумныя", але для іх качкі і цецярукі ня сядуць ізноў на яйцы і ня высядзяць да лістападу (можа да гэтага часу ЦРК арганізуе прыёмку) новых вывадкаў.

**Тамаш.**

# БАБРЫ АХОЎВАЮЦЦА КЕПСКА

У Дрыбінскім раёне, Аршанскае акругі, у 1928 г. 27 сакавіка быў абвешчаны паляўнічы запрэтнік. Запрэтнік займае ва ўрочышчы Вусава 100 *га* з берагавой паласой р. Проні ад в. Галавіч да Заложскага млыну і ў вурочышчы Таболіха 90 *га* з ставам Мураванка, забалочаная плошча між рэчак Мураванкі і Шыпаўні. Пастановай аб запрэтніку там забаронена ўсякае паляваньне на працягу 5 год. Для аховы запрэтніку назначаны вартаўнікі, якія атрымліваюць ад дзяржавы пэнсію.

На справе-ж варта запрэтніка лічыць сваім абавязкам атрымліваць пэнсію, а не вартаваць запрэтнік і паляваньне там практыкуецца на ўсе 100 проц. Займаецца гэтым і сама варта. Летась узімку, напрыклад, рабілася паляваньне нават каля самых хатак бброў. Вясной лавілася рыба ўсякімі снасьцямі. Запрэтнік стаў цэнтрам паляваньня. З першых дзён адчыненьня паляваньня ўсе ідуць паляўнічаць толькі ў запрэтнік, а нашы паляўнічыя арганізацыі як акруговыя, так і раённыя пачываюць на лаўрах.

Трэба ўдарыць па гэтых апартуністых на практыцы. Трэба наладзіць культурную работу, узьняць дысцыпліну паляўнічых, павесьці рашучую барацьбу з браканьерамі ня толькі бязьбілетнікамі, але і тымі, хто мае білет ды не захоўвае тэрмінаў паляваньня і ідзе паляўнічыць у заказьнікі, гэтым самым разбураючы паляўнічую гаспадарку.

На ахову баброў, як рэдкага зьвера, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Парушэньне нармальнага жыцьця баброў у запрэтніку на рацэ Проні дала сябе адчуць і бабры ўжо падняліся на 8 кілёмэтраў уверх па рацэ. Трэба зжыць ахову запрэтнікаў на паперы і наладзіць сапраўдную ахову.

**Сокалаў.**

## ДА ВЕДАМА ПАЛЯЎНІЧЫХ

**25 чэрвеня 1930 г. мною быў злоўлен малады чырок На левую нагу гэтага чырка я надзеў абручок з надпісам: „СССР, Гомель, 30 г.". Чырок выпушчан на луг у раёне вёскі Шапатовічы, Гомельскай акругі. Зварачаюся да ўсіх таварышоў паляўнічых СССР, якія мажліва здабудуць гэтага чырка, паведаміць у паляўнічым друку. КАРАТКЕВІЧ**

# КРЫТЫКІ МАС

## Там, дзе няма ніякае працы

### Рэвізыйная камісія маўчыць

Ужо два месяцы прайшло, як паляўнічыя падалі заявы ў рэвізыйную камісію аб ускрыцьці недахопаў у рабоце райбюро Бешанковіцкага калектыву, а рэвізыйная камісія маўчыць.

Тым часам надыходзіць кампанія пушных загатовак і непарадкі зноў будуць паўтарацца. Летась Мядзьвецкі К. здаў два каты прыёмшчыку пушніны т. Зарыну за 1 р. 80 кап., а аддзяленьне Дзяржгандлю дала 3 руб. Берасьцень К. атрымаў за лісу, забітую ў лютым месяцы, 10 руб., а за яе давалі 25 руб. Барысёнак здаў хароў на 18 руб. у той час, калі ў тым-жа аддзяленьні Дзяржгандлю давалі 27 руб. Няправільна пушніна прынята і ад паляўнічага Волкава.

Былі і іншыя непарадкі. Паляўнічы Масько выбраў сабе шчанюка з гадавальніка сабак, што ў Бешанковічах, а Міронава гэтага шчанюка аддала нейкаму Тарасаву. Да рэчы, гэтая Міронава, зьяўляючыся членам саюзу паляўнічых, спэкулюе стрэльбамі, хаця і сам Б. Зарын не падкачае ў гэтай справе. Аб аднэй такой зьдзелцы зараз вядзецца дазнаньне ў Крымвышуку.

Рэвізыйная камісія павінна праверыць работу райбюро. **Паляўнічы А.**

### Непрацаздольная ячэйка

*(Чабатовічы, Увараніцкага раёну)*

Настала лета і наша ячэйка замест таго, каб узяцца за працу, якой навакол колькі хочаш, на лета заснула. А раз ячэйка заснула, дык і паляўнічыя сталі драмаць. Тады распаясаліся браканьеры.

Усё гэта здарылася ад таго, што наша райбюро калектыву не падрыхтавалася да летняй працы, да барацьбы з драпежнікамі, з ваўкамі і браканьерамі. Райбюро не дала ячэйцы літаратуры, падпіска на часопіс праведзена была слаба, а ячэйка ня ведала, што рабіць. Так і прайшло лета.

Трэба наладзіць працу хоць у далейшым. **К. С.**

### П'яная аблава

13 ліпеня была назначана аблава на ваўкоў у Буда-Кашалеўскім раёне, Бабруйскай акрузі. Ня ведаю ці былі там прадстаўнікі раённага бюро калектыву ці не, але даволі таго, што аблава не адбылася, бо стральцы сталі больш паляўнічаць за „рускай горкай", чым за ваўкамі. У выніку гэтага ня было каму рабіць аблаву, а тыя прыпасы, якія былі ўзяты на ваўкоў, паляцелі ў шапкі сялян.

Пасьля „п'янай аблавы" ватага ледзь дацягнулася дадому. Іх ногі так цяжка пераступалі, што, здавалася, да кожнай нагі было прывязана па ваўку.

А гр—ну Макеенкаву Кузьму Якубаву, члену саюзу чыгуначнікаў, які працуе стрэлачнікам на ст. Буда-Кашалёўская, паказалася, што ваўкі завылі нейдзе ў хаце. Доўга ня думаючы, ён зламаў замок і забраўся туды. Колькі-б ён там гаспадарнічаў—невядома, бо сабраліся людзі і выправадзілі яго з хаты, як таго самага ваўка. **С-ў Ф.**

### Сельячэйкі неарганізаваны, дысцыпліна пала

*(Слуцкі калякты ў, Бабруйшчына)*

Слуцкае райбюро яшчэ летась задумала арганізаваць паляўнічыя ячэйкі, але і дагэтуль яны яшчэ ня ўсюды арганізаваны. Не працуюць і тыя, якія арганізаваны. А працы ў раёне шмат. От, хоць-бы ўзяць чыстку, якая зараз адбываецца. Каб былі арганізаваны ячэйкі, дык правесьці яе было-б лепш і хутчэй. А то на сходы па чыстцы паляўнічыя не зьяўляюцца, дысцыпліна пала, а падцягнуць няма каму.

**Цімка.**

### Працы няма

Наша Капыльскае райбюро зусім не працуе. Сельскія ячэйкі, хоць і арганізаваны дзе-ні-дзе, але яны яшчэ не замацаваны, слабыя.

А працы ёсьць шмат. От, напрыклад, аблавы на ваўкоў. Ваўкоў у нас шмат, а біць няма каму. Неяк была арганізавана аблава, ды і тая не адбылася, бо райбюро настолькі „заклапочана", што і пропуск для паляўнічых з пагранатраду не ўзяла, а ваўкі якраз на мяжы. Пасьля гэтага паляўнічыя махнулі рукамі на гэту справу. **Свой.**

### Яшчэ аб чэрвенскім райбюро.

Ужо пісалася ў № 7 „П. Б.", што Чэрвеньскае райбюро зусім не працуе. Як відаць, працаваць яно і ня хоча.

У паляўнічай гаспадарцы хворае месца гэта тое, што сабакі бадзяюцца і зьнішчаюць дзічыну ўвесну.

Райбюро трэба было-б павесьці ўзмоцненую барацьбу з гэтымі шкоднікамі, арганізоўваць аблавы, вылучаць брыгады. Але гэтага нічога не рабілася. Пачалі паляўнічаць, а дзічы мала. За тое ваўкоў шмат. Яны таксама, як і сабакі, разгульваюць па ўгодзьдзях.

Некаторыя паляўнічыя адзіночкі былі спрабавалі зьнішчаць бадзячых сабак, але ім ніхто не дапамог і справа гэта заглохла. Ды аднаму займацца гэтай справай і нязручна, бо насельніцтва ня хоча лічыцца з інтарэсамі паляўнічай гаспадаркі і заўсёды перашкаджае зьнішчаць гэтых хатніх драпежнікаў. Райбюро павінна дагаварыцца з міліцыяй і зрабіць належныя вынікі. Асабліва гэта неабходна зрабіць увесну. **П. Х.**

### У полацкім раёне таксама кепска.

Што будзе, урэшце, з паляўнічай гаспадаркай у Полацкім раёне, хто яго ведае. Райбюро не прымала аніякіх мер, а сабакі рабілі сваю справу. Апроч сабак, дапамаглі яшчэ браканьеры. Некаторыя бацькі сямейства атрымалі білеты толькі на сябе, а паляўнічаюць усёй сям'ёй. А потым паляўнічыя крычаць, што дзічы няма. Дзе-ж яна будзе?

А каб сабрацца ў вольны час і абыйсьці з стрэльбамі паляўнічыя ўгодзьдзі. Нічога ня чуць і аб конкурсе па адстрэлу драпежнікаў. Трэба прыняць меры.

**Лапенка.**



Рэчка Ісха, Барысаўскі раён.

# ШТО БЫЛО Ў БАЛОЦЕ

„Открыть охоту на уток с 1 августа, а на дупелей и бекасов с 20 июля",—такі зьмяшчае артыкул часопісь „Охотник и Рыбак Сибири" у № 5. У артыкуле гаворыцца: „сейчас, когда развертывается в стране капитальное строительство, когда для улучшения дела питания рабочих и каждый „чебак" дорог, было бы бесхозяйственно стаи дупелинных и бекасинных долгоносых бесплатно отдавать капиталистам.

У другім месцы гэтага нумару часопісі, у артыкуле „Построим сроки охоты разумно (Против вредного запрета)" гаворыцца: „Да, это верно—бекас требует искусства стрельбы" і „упражнения (в стрельбе) по бекасам принесут гораздо больше пользы в смысле военизации глаза, чем тарелочки".

Нельга не згадзіцца з гэтымі думкамі. Бэкас і дупэль—гэта такія птахі, што вырашаць праблему харчаваньня імі ня прыходзіцца, але пры такім крызісе на мясе кожны „чебак" дараг. Ніхто ня будзе адмаўляць і таго, што стральба па бэкасах і дупелях лічыцца самай цяжкай і толькі добры стралок можа паляўнічыць на гэтых птах. А каб быць добрым стралком, трэба вучыцца страляць і вучыцца толькі па бэкасах. Стральба па бэкасах і цікавей і карысьней, чым па талерачках, бо паляўнічы страляе па жывой птасе і спадзяецца ад стрэлу мець карысьць. А хіба нам непатрэбен добры стралец?

Другія скажуць—ну, дык і хай вучыцца страляць з 1 жніўня. Тут нельга ня ўлічыць таго, што паляваньне на бэкасаў і дупялёў утвараецца выключна папутна з качкамі і аддзяліць качку ад бэкаса і дупеля, гэта значыць забараніць паляваньне на бэкасаў і дупялёў зусім, бо ніхто, нават з самых палкіх паляўнічых ня пойдзе паляўнічаць на бэкасаў і дупялёў спэцыяльна, ня стане хадзіць па сырому балоту ўвосень, калі можна пайсьці ў больш сухія месцы і заняцца больш лёгкай справай—настраляць цецярукоў і пардвы.

Але пачуцьці валакітчыкаў з „Белкохотсоюза" былі ўшчэмлены бюракратамі з Наркамзему і вось тут бюрократызм „сплёўся" з валакітай.

Трэба ўлічыць і тое, што бэкас і дупель зьяўляюцца самым лепшым аб'ектам для навучэньня выжлаў, а калі ўзяць выжлы на паляваньне па качках, дык яна ня толькі не навучыцца, а забудзе тое, што ведала.

Усе гэтыя моманты трэба было ўлічыць пры абгаварэньні тэрмінаў паляваньня. Так сібірскі Краёвы саюз паляўнічых рыбацкіх і інтэгральных каапэратываў і зрабіў. І паляўнічыць на бэкаса і дупеля сталі там у той час, калі і на качак. Сібкрайсаюз вырашыў тэрміны паляваньня разумна.

Як-жа разумна вырашаў гэта пытаньне „Белкахотсаюз"?

Тут думаюць, што бэкас—ня птаха, а паляўнічы не павінен быць добрым стралком. Калі да гэтага дадаць яшчэ тое, што ў Менску ў гэтым годзе ня было арганізавана ні разу стрэльбы па талерачках, дык вывад напрашваецца такі, што „Белкахотсаюз" лічыць непатрэбным ваенізаваць паляўнічую масу.

Ніколі ня было парадкаў з вырашэньнем тэрмінаў паляваньня. „Белкахотсаюз" заўсёды зацягвае гэтае пытаньне да апошняга часу. Былі выпадкі (1927-28 г.) што яно вырашалася ў апошні дзень перад паляваньнем, а потым „сыпаліся" тэлеграмы ва ўсе куткі Беларусі, траціліся грошы.

У гэтым годзе была раньняя вясна. Паляўнічыя сталі пагаварваць аб дазволе страляць балотную дзічыну (качку, дупэля і бэкаса) з 15 ці 20 ліпеня. Наркамзем, не чакаючы вырашэньня гэтага пытаньня „Белкахотсаюзам", яшчэ 9 чэрвеня вынес пастанову аб дазволе паляваньня на качак, дупялёў і бэкасаў

# ВЫКІНЕМ ШКОД

## Аграном Шаціла ў паход сабраўся

Усе паляўнічыя чакалі 20 ліпеня, а вось аграном Шаціла, Лапіцкага сельсавету, Асіпавіцкага раёну, не мог дачакацца.

І бедныя качкі! Хоць вас і не гадаваў і не даглядаў браканьер аграном Шаціла, але ўсё-ж такі хацеў дабыць больш, чым другія. Ого, аграном, каб аграном ды паляўнічыў разам з іншымі. Дзе гэта бачна?

І Шаціла яшчэ 15 ліпеня ў паход сабраўся.

А калі яго злавіў на месцы злачынства з качкамі паляўнічы Дашкоў, дык аграном з важным начальніцкім выглядам сказаў: „Я з вамі тут не разгаварваю. Я выконваю службовыя абавязкі. Я тут глебу дасьледваю на конт качак. Прыдзеце да мяне на кватэру".

А па-нашаму трэба, апроч суду, зацікавіцца і тэй установе, дзе працуе браканьер Шаціла, што гэта за такія абавязкі выконваў 15 ліпеня на балоце з стрэльбай Шаціла, і даць яму па шапцы. **Крот.**

## „Самаснабжэньне"

Віцебскае акруговае таварыства недзе здабыла некалькі пар лапцей і схавала іх для сабе ў шафу.

І відаць было 17 ліпеня на пленуме, як сябры т. Сьвятагорава падыходзілі да шафы, нібы за кватэркай гарэлкі па аднаму, з газэткай у руках.

Дзе-ж праўленьне? Раз усім, дык усім—трэба і раёну даць якую пару.

Узімку Бешанковіцкім калектывам куплена 2 пары, ботаў як спэцабутак, і выслана ў Віцебск акруговаму таварыству. І боты т. Сьвятагораў узяў сабе.

Што гэта за „самаснабжэньне"? Трэба за гэта ўзяцца РСІ! **„Охотник".**

з 20 ліпеня і паслаў гэту пастанову для апублікаваньня ў „Бюлетэнь СНК“.

Бязумоўна, гэта бырократызм, але бюрократызм, накіраваны супроць „белкахотсаюзаўскай“ валакіты. Тут „Белкохотсоюзу“ лепш было памаўчаць і далучыцца да пастановы Наркамзему.

Трэба было апратэставаць пастанову Наркамзему, а для гэтага неабходна прыдрацца да якой-небудзь „запятой“. І вось гэта запятая знайшлася—падумаць толькі, Наркамзем дазваляе страляць дупялёў і бэкасаў!

Заработалі машынкі, забегалі чыноўнікі, паляцелі паперкі. Справа дайшла да самага наркома земляробства і пастанова была адменена, хаця і з спазьненьнем, бо была ўжо надрукавана ў бюлетэні СНК і прыняла законны характар. Ня гледзячы на гэта машыністку „Белкохотсоюза“ дваццаць разоў кідала ў пот, пакуль у праўленцаў кончылася „бэкасіная ліхарадка“. Машыністка напісала сто адну адносіну—усім! усім райбюро калектываў паляўнічых; адносіну гэту паслалі ў сто адно месца.



Рэчка Ісха, Барысаўскі раён.

Ува што ўляцела „Белкохотсоюзу“ „бэкасіная ліхарадка“, падлікам гэтым я займацца ня буду. Я толькі скажу, што ўся гэта справа ня варта выедзенага яйца. Ня толькі сьвядомыя паляўнічая маса лічылася 20 ліпеня на балоце ў адносіне да бэкаса і дупеля з пастановай праўленьня „Белкахотсоюза“, але нават і сам намесьнік старшыні праўленьня т. Сьмірноў, самы яры абаронца бэкасаў і дупялёў, той, хто падняў усю гэту валакіту, загадчык аддзелу паляўнічай гаспадаркі „Белкахотсаюзу“, паехаў на паляваньне ў Барысаў, і там, удыхнуўшы сьвежага паветра, выздаравеў ад „бэкасінай ліхарадкі“. Зрабіўшы нявінны выгляд, ён даў згоду Барысаўскаму райбюро на адстрэл бэкасаў і дупялёў. Ітак, Барысаўскія таварышы ведалі, што аддаваць капіталістым бэкасаў і дупялёў ня трэба, а таварышы другіх раёнаў здагадаліся пра гэта і таксама стралялі.

Урэшце, усяго гэтага трэба запытацца, навошта панадабілася праўленьню „Белкохотсоюза“ уся гэта валакіта? Толькі таму, хіба, што былі ўшчэмлены пачуцьці валакітчыкаў!?

Паляўнічая маса павінна дамагацца сталых, вызначаных і ўсім вядомых тэрмінаў паляваньня. Толькі тады, калі ня будзе ні бюрократызму, ні валакіты ў гэтай справе, ня будзе браканьерства. Пастаноўка-ж пытаньня Наркамзема і „Белкохотсоюза“ мае ўстаноўку толькі на разьвіцьцё браканьерства. Яна пазбаўляе магчымасьці выканаць пяцігодку паляўнічай гаспадаркі.

**Драч.**

# НІКАЎ З САЮЗУ

## Гнаць браканьераў

*(Уваравічы, Гомельскае акругі)*

6-га ліпеня на агульным сходзе паляўнічых былі выяўлены паляўнічыя браканьеры. У в. Смочак было некалькі паляўнічых, якія на працягу лета ўвесь час паляўнічалі і вадзілі за сабой браканьераў. Цікава тое, што ў ліку браканьераў быў сакратар сельсавету Котаў, які павінен быў сам змагацца з браканьерамі. Браканьеры зжыліся пасямейнаму і адзін аднаго пакрывалі, уцягваючы ў свой „гурток“ новых членаў саюзу. Такім чынам, гурток браканьераў рос, як на дрождждж, і дайшоў ужо да 10 асоб.

У браканьераў была так пастаўлена справа, што яны адзін аднаго папярэджвалі і на паляваньні і ўсюды. Злавіць іх было цяжка. Прозьвішчы чатырох браканьераў выяўлены: (Браднёўскі, Асіпенка, Пінчук, Котаў, а апошніх яны выказаць ня хочуць.

Уваравіцкаму райбюро трэба ўзяцца за гэту справу і выкінуць драпежнікаў з саюзу, а іншым паляўнічым ячэйкам і райбюро прыглядзецца да сваіх паляўнічых.

**Паляўкор Кар.**

## П‘яны старшыня

Дрэнна працуе Чавускае райбюро паляўнічых. Старшыня райбюро Чапялёўскі заўсёды п‘яны, працай ня цікавіцца, ячэйкі паляўнічых не працуюць.

У раёне ёсьць шмат браканьераў. Па ўгодзьдзях бадзяюцца сабакі, а іх ніхто ня зьнішчае. Аблаў ня было. Брыгады па зьнішчэньню драпежнікаў, бадзячых сабак і змаганьню з браканьерамі не арганізоўваліся.

Зяблік.

**Кожны паляўнічы павінен чытаць сваю часопіс, пісаць у яе і распаўсюджваць.**

# СІЛЬНЕЙ КОШКІ ЗЬВЕРУ НЯМА

**Нібы фэльетон**

Закон... Закон, што дышла, куды павернеш, туды і вышла—думаў пракурор N корпусу т. Нялідаў, едучы ў мяккім аўтамабілі на паляваньне. Прашу выбачэньня за сьмеласьць.

— Закон, гэта для... Слухай Іван, для каго закон пісаны?—запытаў ён у свайго шофэра.

— Ну, вядома, не для вас. Яны пішуцца для таго, хто іх ня ведае. А вы-ж усе законы ведаеце так, як усё роўна тое, што вы заб'еце трыццаць качак, а ня тры і для гэтага вы ўзялі дзьвесьці патронаў, а ня два.

Пракурор быў задаволен адказам шофэра. І ня толькі задаволен, але адказ гэты яго падбадрыў. І пракурор смачна зацягнуўся папіросай і стаў нэрвова адгрызаць па кавалку і сплёўваць мундштук. Пракурор перасядаў з месца на месца, у соты раз разглядаў свайго „Зауэра“ і зноў ставіў яго ў куток аўтамабіля. Пракурор ня мог супакоіцца.

— Вядома, я ведаю, што я заб'ю трыццаць качак таксама, як я ведаю, што ў маім патранташы і сумках зараз дзьвесьці патронаў, а ня два, але гэта ні ў якім разе ня значыць, што калі я выйду на паляваньне заўтра, дваццатага, дык я магу выстраліць хоць адну дзесятую сваіх патронаў. Але разумныя людзі, ды яшчэ так добра ведаючыя савецкія законы як я, з усякага становішча знаходзяць выхад. Значыць, такі самы выхад павінен знайсьціся і для мяне.

І пракурор стаў думаць аб тым, у якім месцы, і калі яму зрабіць выхад на паляваньне.

— Дваццатага... Што-ж, дваццатага шмат людзей будзе! Я ведаю, што трыццаць качак усё роўна, што ў торбе ўжо ляжаць, але-ж хто яго ведае... А што, калі я выйду на паляваньне дзевятнаццатага ўвечары? Га! Што ты кажаш? Нельга!? А хто будзе ведаць, калі я качак страляў? Абы былі пабітыя! Не паляціць-жа качка, скажам, у міліцыю са скаргай на мяне! Прыходзіш сабе на балота, качкі спакойна сядзяць на вадзе. От, так проста бяры ды адлічвай па аднэй ды кладзі ў торбу, як грыбы.

Пракурор у размышленьні да таго дайшоў, што ўявіў перад сабой жывога чалавека і стаў выкладаць свае думкі ўслух, спрачацца з гэтым чалавекам. Пракурор даводзіў чалавеку, што рэвалюцыя не пацерпіць страт ад таго, што ён, пракурор N корпусу душу „адвядзе“ на качках не дваццатага, а дзевятнаццатага. Пракурор спрачаўся дзелавіта, як і належыць пракурору. Гаварыў ён красамоўна. Выгляд у яго быў сур'ёзны, сказы кароткія, але цьвёрдыя, не дапускаючыя аніякіх спрэчак, нібы перад ім былі ня пустыя сьценкі аўтамабіля, а абвінавачаны.

— Т-а-а-в-арыш начальнік! З кім-жа вы гаворыце? Ці варта гаварыць аб гэтай дробязі? Вы-ж пракурор! Сільней кошкі зьвера няма... Рыба выбірае дзе глыбей, а чалавек дзе і калі лепш... Калі выйдзеце тады і добра. Не для вас-жа законы пісаны!

Пракурор супакоіўся.

У гэты час аўтамабіль выкаціўся на ўзгорак, з лёгкім гудзеньнем у маторы, нібы адзічаўшае парасё дзядзькі Сымона, што жыве ў канцы вёскі „Дубовы Лог“ пад г. П-кам. Да рэчы, гэта парасё ня раз пападала ў зубы ваўкам, але яго заўсёды выручалі, хоць і кароткія, але спрытныя ногі, таксама, як пракурора выручыў 19 ліпеня яго „чын“. З узгорку перад вачыма пракурора вырасла, ня то што вырасла, але выплыла ў памутнеўшых вачох пракурора балота.

Сонца было ўжо на захадзе. Над балотам садзіўся туман. Адтуль цягнула сырасьцю. Нейдзе разьдзіраўся драч. І песьня яго здавалася такой прыгожай пракурору, што наўрад ці чуў ён што-небудзь падобнае. Шофэр спыніў машыну і пракурор, з лёгкасьцю лані, выскакнуў з аўтамабіля.

Хутка песьню драча заглушылі стрэлы. Над балотам качкі стагналі і на лёгкіх крылах уцякалі ў пустош. У тумане насілася сьмерць і качка за качкай бяспомачна трапяталі ў траве. Дубальт за дубальтам грукацеў на балоце і рэха яго адкугалася ў вёсцы.

— Чорт-бы мяне ўзяў, калі там не браканьеры,— сказаў старшыня Полацкага т-ва паляўнічых т. Лісовіч. Зараз-жа арганізаваць брыгады!—І тры чалавекі выбіваліся з сіл, праразалі балота.

— Якое вы маеце права паляўнічаць? Сёньня-ж толькі дзевятнаццатае!

— А для мяне і сёньня дваццатае!

— Таварыш, кіньце страляць і хадзем з намі!

— Слухайце, таварышы, калі вы мне будзеце перашкаджаць, дык я з вас зраблю катлету. Вы ведаеце, хто я такі?...

— Хай сабе вы чорт лысы, нам да гэтага справы няма. Вы—браканьер. Вы злодзей, бо вы незаконна зьнішчаеце народную гаспадарку. Хадзем з намі!— дамагалася брыгада паляўнічых.

Пракурор не здаваўся. Ён нават не паказаў білета на права паляваньня. Ён напляваў на савецкія законы і ўтаптаў іх у багну балота.

**М. Я. Целеш.**



Паляўнічы з рыбаю „вырэзуб“.

# ДЖЫЗАКСКІЯ АГНІ

*(Апавяданьне-быль А. Вялiканава),*

Цішыню бархатнай туркестанскай ночы гулка прарэзаў стрэл. За ім другі. Нястройны залп. Яшчэ. Над стэпам шротам па жалезу пакаціліся стрэлы з вінтовак.

У нізіне, каля арыка[1]), які разьліўся навокал, грузка паднялася пара буслаў. Сонныя птахі зрабілі ў паветры круг і зноў апусьціліся каля арыка.

Стала ціха. Зноў заснула стэп у мёдавых пахах раньняй вясны.

Пры першым-жа стрэле, які дакаціўся да першага кішлака[2]), чалавек у чырвонаармейскай форме, не прачынаючыся, з закрытымі вачыма, адным скокам сеў на цюках сена, якія служылі яму ложкам. Таксама хутка левай рукой ён выцягнуў з-пад падушкі наган, а правай ткнуў перад сабой у цемру, намерваючыся разбудзіць сьпячага канавода. Аднак, ня сустрэўшы апоры, чалавек хістануўся ўперад, ледзь не паваліўся, і толькі тады канчаткова прачнуўся.

„Куды-ж чэрці ўнясьлі“. Стукнуўшыя ў гэты момант за дзьвярыма страмяны сядла зьмянілі думкі, і, зразумеўшы, што канавод ужо сядлае коняй, ён скончыў інакш пачаты сказ:... „ось гэта правільна“!

Праз некаторы час два верхавыя выляцелі з лабірынта кішлачных пабудоў у стэп, дзе загараліся на адзін міг аганькі стрэлаў. Дзьве-тры сьвінцова нікельныя шалёныя асы з піскам праляцелі ў цёмнай вышыні і ў адказ ім нэрвова пашырылі размах скачкоў коні.

Ці спрабавалі вы ляцець у цёмную ноч па стэпу? Гэтага ніколі нельга забыць! Зямля мутнай цёмнай масай сьлізіць унізу. Вецер ласкуча верхавога і ў паветры расчыняюцца матэрыя і цела. Нічога няма. Адзін толькі дух ляціць некуды ў цемру. Часамі прамільгне думка: „А калі скакун спаткнецца? Тады толькі галаву беражы!“

Кананада спынілася таксама нечакана, як і пачалася. Нэрвы супакоіліся. Недзе ў стэпу павінны быць палаткі. У цемры цяжка разгледзіць, куды ехаць і трэба даверыцца каню. Конь чуе і ведае, тое, што адчуваньням чалавека не пад сілу. Разумны конь—лепшы павадыр. Як відаць, гэтыя вывады добра ведалі верхавыя, бо павады свабодна боўталіся па баках потных конскіх шый.

Праз 15 хвілін напруджаны дрыжачы воклік нёсься насустрэч:

— Стой! Хто?

— Свае, свае!

І зноў, ужо з большым палягчэньнем, адгукнуўся той, хто крычаў.

— Гэта вы, таварыш Вагін?

— Так. Што ў вас тут за перапалох?

— Ерундовіна нейкая, таварыш камандзір. Па стэпу нехта з агнём езьдзіць. Звалі—не адгукаецца. Мы падумалі—басмачы і давай страляць.

— Ну, і што?

— Нічога. Прапаў некуды.

— Дзе апошнія?

— У палаткі пайшлі.

— Капцілаў дзе?

— Тамака,— і, не чакаючы, крыкнуў у цемру: Ка-а-пцілаў! Таварыш камандзір кліча!

Праз хвіліну да Вагіна прыбягае прыземісты курсант у шлеме на баку, з вінтоўкай, якая боўталася на рэмні. Яго рапарт мала чым розьніваўся ад каротхіх адказаў паставога. Едзе нехта з агнём. Стралялі. Уцёк.

— Што за бесталкоўшчына!—Вагін пачынаў злавацъ.— Ну, добра, у наступны раз не страляйце, а паціханьку паведаміце мне.

* * *

Тут прыдзецца трохі ўхіліцца ад здарэньняў і пазнаёміць чытача з тымі мэтамі, для якіх пісалася гэта апавяданьне, а за адно апавядаць аб часе і месцы, дзе адбыліся апісаныя факты. Менавіта, факты, бо вымыслу тут аніякага няма і я апавядаю толькі тое, што бачыў уласнымі вачыма.

У 1922 годзе я быў камандыраваны N-скімі Каўкурсамі на загатоўку фуражу ў былы Джызакскі павет. Час быў смутны. Разам з надыходзячай вясной і з усякай спаўшай узімку поскудзьдзю ажывалі і бандыцкія шайкі басмачоў. Панукаемы ангельскім золатам, на афганскай мяжы энэргічна арганізоўваў атрады Энвер-Паша. Рыхтавалася інтэрвэнцыя Савецкага Туркестану. Перастрэлкі, як апісвалася вышэй, далёка не заўсёды канчаліся мірна. Накіравалі на лячэньне з прастрэленым куляй басмачоў бядром весельчака Панарына. У стэпу засьвяжэлі дзьве глiністых магілкі над трупамі забітых. Таму ня дзіва, што нэрвы ў нас былі нацягнуты, і стральбу па будзячаму агню ніяк нельга было назваць непатрэбнай. Праўда, пазьней мы пазнаёміліся з дзесяткам такіх агней, але навуковае тлумачэньне такога зьявішча дагэтуль невядома і, публікуючы гэтыя запіскі, я маю на мэце, па-першае, атрымаць вычэрпваючае тлумачэньне, а, па-другое, магчыма гэтыя запіскі прынясуць некаторую карысьць да адкрыцьця новых багацьцяў нетраў зямлі.

Аднак, вернемся да апавяданьня.

* * *

Станцыя Ламакіна, Сярэдня-Азіяцкай чыгункі і кішлакі Каштал і Аравань, злучаныя на карце простымі лініямі, робяць простакутны трохкутнік, які глядзіць ламакінскім вострым кутком на поўнач. Хвалістая стэп блізка падыходзіць да паўднёвага катэту Каштал-Аравань і зараз-жа за ім раптоўна ўзьнімаецца ўверх гара Цянь-Шань.

Сёньня ў Араване базар. З раніцы чадзяць жароўні з шашлыком.

Тонкімі, грубымі струйкамі круцяцца дымкі з вялізарных самавараў у чай-хане. На сухім прыгорку расклаліся гандляры спэцыямі: перац чорны і чырвоны, купарос, залацісты ладан, фарбы, маткі шоўку і ваты... Навокал прыгоркаў мора рознаколерных халатаў, белых, шэрых і блакітных, паласатыя

[1]) Арык—канал для арашэньня палёў у Туркестане.

[2]) Кішлак—сяленьне.

чалмы, конскія галовы, ішакі. Недалёка, лежучы, смакуюць жвачку гарбатыя вярблюды.

Базар ва ўсходнім захалусьці—гэта клюб. Толькі дзесятая частка магчыма што небудзь купіць. Апошнія глядзяць, п'юць, ядуць і гамоняць. Гаманіць—гэта галоўнае. На ўсходнім базары вы будзеце ведаць тысячы навін: вам паведамяць, што робіцца ў далёкім Хорозе, адрэзаным сьнегавымі переваламі, вы пазнаёміцеся з паднаготнай усіх ваколічных кіш лакоў, нават з патаемнай Мачы—горнага персьня, занятага бандытамі, — данясецца да вас сьвежая вестка.

Ужо цямнела, калі з чай-ханы вышаў Вагін. Толькі што ён закантрактаваў абоз для перавозкі сена. Заўтра ледзь сьвет спрасаваныя цюкі закалышуцца на высокіх арбах па дарозе на станцыю, адтуль на рэйках пакацяцца ў Самарканд.

Вагіну ня лёгка было знайсьці свайго каня ў гушчы базара. Ён з асьцярогай выбраўся з людзкога віра і ўздыхнуў ужо лягчэй, калі мінаваў апошнія кішлачныя пабудовы. Сонца села, і вельмі цёплы і ціхі вечар песьціў верхавога. Вагін пусьціў каня рысяй. Зьлева з-за далёкіх узгоркаў пачуўся сьвісток цягніка.

Ад Аравана да Кішлата каля шасьці кілёмэтраў. На сярэдзіне дарогі зусім сьцямнела і контуры гор зьліліся з акружаючай цемрай. Вагін убачыў агонь справа. Не калыхаючыся, ён плыў крокаў на трыццаць каля дарогі, не адставаў і не абганяў верхавога. Вагін сьцішыў каня і паехаў памалу. Агонь таксама сьцішыўся і параўняўся з канём. Ён гарэў сьветла, як на вуліцы газавы фанар. Здавалася, што нехта едзе па дарозе з фанаром. Вагін быў нарыхтаваўся скінуць карабін з плеч, але вушы каня супакоілі яго.

У стэпу, поўным нечаканых небясьпек, конь—лепшы параднік. Адчуваньні ў каня развіты вастрэй, чым у чалавека. Аб усім варожым конь сыгналізуе вушамі. Трэба ўмець чытаць гэту грамату. Калі дарога свабодна, вушы спакойны: яны толькі паперамена „аглядваюцца“ назад і слухаюць—ці ўсё ў парадку. Але вось на дарозе нешта ёсьць. Вушы выпрасталіся ўперад і напруджана застылі. Цяпер глядзі, верхавы! Можа быць трусьліва шарахнецца ў бок мізэрны шакал[1]), а магчыма ўдара насустрач паласой агня двуногі воўк—басмач.

Але зараз конь спакойна паводзіў вушамі, і рука Вагіна, якая была пацягнулася за карабінам, спакойна апусьцілася на бядро. Адчуваньні асьцярогі ўступілі месца цікавасьці. Вагін стаў уважліва прыглядацца да дзіўнага зьявішча прыроды. „Як раз, як газавая лямпа гарыць. А ну, паспрабуем перагнаць гэту дзіковіну“. Удар нагайкі прымусіў каня выцягнуцца ў струну і конь паскакаў галопам па полю. Агонь ў сваю чаргу ажыў і панёсься. На ростані, у нізіне пад дзікі сьмех-вой-плач шакалаў нарадзілася яшчэ два новых агні; трохі пазьней—чацьверты. Гэта былі вясёлыя жарты. Агні беглі, адставалі, заскаквалі ўперад, кружыліся, аднолькавыя, як браты, ярка-сьветлыя. Вагіну часамі станавілася страшна ад гэтых няпрошаных спадарожнікаў, але ў той-жа час ён ня мог не любавацца імі. Для спробы спыняў каня—агні таксама спыняліся. Спрабапускаў каня галёпам—агні таксама імчаліся. Спрабаваў зьвярнуць з дарогі ў стэп, проста на агонь—той дыплёматычна увярнуўся, а потым раптоўна патух. Бліжэй 25—30 крокаў агні не падпускалі да сябе.

Паказаўся кішлак. Дружным хорам адгукнуліся сабакі на конскі топат.

Вагін расьсядлаў успацеўшага каня, даў яму сена і забраўся на плоскую даху сваёй кібіткі. Пад ім разасьлалася ў цемры неабсяжная стэп, і дзесяткамі сьветлых кропак гарэлі на ёй агні. Стэп спала, цудоўна ілюмінаваная невядомым зьявішчам прыроды.

**Ад рэдакцыі:** Зьявішча, якое апісана т. Вялікавым, не належыць да ліку невядомых. Навука дае „блукаючым агням“ такое тлумачэньне. У некатарых мясцох пад зямной карой ёсьць вялікія скапленьні істот, якія ўтрымліваюць углявадароды. У тым выпадку, калі праз глебу лёгка пранікаюць газы (песчаная, балотная глеба), лятучыя складаныя часткі гарашчых газаў лёгка пераносяцца з месца на месца пры малейшым руху паветра. Ток паветра, які атрымліваецца пры скаканьні каня, упаўне дастатковы, каб прымусіць такі „блукаючы агонь“ сьледваць за верхавым. („В. С.“).



Бабёр.

[1]) Шакал—зьвер, падобны да ваўка.

**Каб пасьпяхова выканаць заданьне па рэалізацыі пазыкі „пяцігодка ў чатыры гады“, трэба, каб падпісаўся кожны паляўнічы.**

**Наш лёзунг—ніводзін паляўнічы без пазыкі.**

# ЗА РУБЯЖОМ

## У Прусіі. Паляўнічыя пасьведчаньні на права паляваньня

У бліжэйшыя гады, пасьля абвяшчэньня рэспублікі ў Германіі рост колькасьці паляўнічых пасьведчаньняў на права паляваньня значна павялічыўся. Аднак, такое становішча цягнулася нядоўга і зараз колькасьць паляўнічых пасьведчаньняў амаль роўна колькасьці даваеннага часу. Ва ўмовах сучаснага быту ў Германіі паляваньня не набыло дэмакратычнага характару, ня стала ўласнасьцю шырокіх мас і натуральна, што адна дэшавізна паляўніцкіх пасьведчаньняў не магла ўтварыць спрыяючых умоў да гэтага. За знадворнымі шырмамі гэтай псэўдадаступнасьці захоўваліся высокія арэндныя плацяжы за карыстаньне паляўнічымі ўгодзьдзямі, буйныя выдаткі па ахове ўгодзьдзяў, штрафы за ўчыняемыя страты дзічай і інш., якія прыходзіцца несьці кожнаму паляўнічаму, выкарыстоўваючаму сваё дзяповаe пасьведчаньне на права паляваньня.

Прусія—самая буйная з дзяржаў Германіі, аб'ядноючая Рэйнскую Прусію, Усходнюю і Заходнюю Прусію Брандэнбург, Бэрлін-горад, Памеранію, Верхнюю і Ніжнюю Сілезію, Вестфалію. Гановер, Шлезвіг, Гессе-Пасаў і тэрыторыю Гогенцолерн—за паляўнічы 1928-29 г. мела толькі 209.230 паляўнічых пасьведчаньняў.

Тэрыторыі, якія займаюцца Прусіяй, раўняюцца 294.786 кв. кілём. з насельніцтвам у 29.000.000 душ (кругла). Пры чым трэба сказаць, што з агульнай колькасьці пасьведчаньняў у 209.230—гадавых усяго толькі 173.615, а астатнія—разавыя (на ўтварэньне паляваньня 3 разы ў год) або бясплатныя.

З гэтых 173.615 гадавых паляўнічых пасьведчаньняў 262 выбрана паляўнічымі, якія жывуць ня ў Прусіі, і чужаземцамі, 4639 выдана вартаўнікам і апошнія выбраны мясцовымі паляўнічымі.

Сумы, выручаныя за паляўнічыя пасьведчаньні, разьмяркоўваюцца наступным чынам: 173.353 гадавых пасьведчаньняў для мясцовых паляўнічых па 25 марак даюць суму ў 4.333.825 марак (або 1.995.000 руб. кругла). 262 гадавых пасьведчаньні для чужаземцаў па 200 марак—52.400 марак (абс 24.104 р. кругла). 30.693 разавых дазволаў для мясцовых паляўнічых па 5 марак—153.465 марак або 105.931 руб. і 283 разавых дазволаў для чужаземцаў па 40 марак—11.320 марак (або 5207 руб.).

Агульная сума раўняецца 4.551.010 марак (або 2.095.304 руб.) Сума гэта вельмі малая параўнальна з арэнднымі плацяжамі за паляўнічыя ўгодзьдзі, якія атрымліваюць вобшчыны, здаючыя ў наём паляўнічыя ўгодзьдзі.

## У Швайцарыі новае палажэньне аб арэндзе паляўнічых угодзьдзяў

Карыстаючыся фэдэральным законам аб паляваньні, урад Кантона Цюрыха падаў у канцы мінулага году праэкт арэнды камунальных паляўнічых гаспадарак. Хутка перад гэтым чатыры іншых кантоны--Берн, Фрыцбург, Сэнт-Галь і Солен рызыкнулі і пацярпелі няўдачу.

Гэты правал паслужыў Цюрыху для таго, каб прыняць усе меры перасьцярогі, якая-б садзейнічала правядзеньню праэкту праз законадаўчыя органы, дэкрэтуючы, што адна трэцяя сродкаў пойдзе ад арэнды камунальных паляўнічых угодзьдзяў на ўзмацненьне фонду інваліднасьці.

Закон, устанаўляючы новы парадак арэнды паляўнічых угодзьдзяў і плату за іх быў прыняты і прайшоў большасьцю галасоў. У сучасны момант арэнда камунальных паляўнічых гаспадарак—справа вырашаная і можна прызнаць, што з пункту погляду фінансавай ацэнкі дае станоўчыя вынікі. Пры сыстэме ўсеагульнага паляваньня і паляўнічых пасьведчаньняў валавы прыбытак ад паляваньня дасягаў у 1927 г. 130.000 франкаў, з якіх камуны атрымлівалі 79.200 франкаў. У сучасны момант, пры новым законе, валавы прыбытак дасягае 480.000 франкаў на 164.976 га паляўнічых угодзьдзяў, з якіх 300.000 франкаў вяртаюцца ў камуну. Сярэдная арэндная плата за 1 га—2 франка 80 сант. (каля 30 кап.), але некаторыя камуны здавалі свае ўгодзьдзі па 4, 5 і нават 10 франкаў за 1 *га*. Новы закон аб арэндзе камунальных угодзьдзяў спыніць пагоню за арэнднай платай камунальных угодзьдзяў.

## У Чэха-Славакіі. Ахова дзічыны

Уласьнік вялізарнага паляўнічага ўгодзьдзя А. Каралій, маёнтак якога знаходзіцца недалёка ад Вены, прымушан быў забараніць паляваньне на зайцаў пасьля суровай зімы 1928–29 г. У мінулы сэзон ня было забіта ніводнага зайца, дзякуючы правільна пастаўленай ахове, у той час, калі звычайна іх дабівалі за сэзон ад 10 да 12 тысяч штук. Курапатка, якая часткай вымерзла гэтай зімой ня менш, чым заяц, таксама была ўзята пад ахову і паляваньне па ёй было забаронена. Але фазан папаўся за дзіч, якой была дадзена перадышка! За 6 дзён паляваньня сем паляўнічых забілі больш 800 фазанаў і 2100 фазанак. У гэтым-жа ўгодзьдзі некалькі год таму назад сем паляўнічых забілі за адзін дзень 600 фазанаў, што зьяўляецца сусьветным рэкордам.

## У Германіі. Паляваньне на зайцаў

Вынікі аблаў на зайцаў у канцы 1929 г. былі самыя кепскія. У Германіі аблавы амаль заўсёды ўтвараюцца пасьля каляд, у гэты час цэны на дзіч найбольш высокія. Нябывалыя маразы ў другой палове зімы значна зьменшылі зьвера і дзічы. Галоўным чынам гэта адбілася на зайцах і курапатках. Тым ня менш такім вынікам аблаў нашы паляўнічыя могуць пазайздросьціць. Так, напрыклад, 5 аблаў у Гессе ў лютым 1929 г. далі 845 зайцаў (у сярэднім па 3 кілё кожны) на тэрыторыі ў 3660 *га*.

## Добрыя вынікі

30 і 31 кастрычніка 1929 г. ў маёнтку фон-Цытэвец у Пюстоў (Усходняя Памеранія) былі праведзены аблавы. На 800 *га* з агульнай тэрыторыі паляўнічых угодзьдзяў ў 1875 *га* за гэтыя два дні было забіта 80 дзікаў і 32 алені. У аблавах на кабаноў было выкарыстана 8 сабак эрдэлей.

## Новая Зэляндыя

Колькасьць эўрапэйскага аленя і вапіты ў Новай Зэляндыі настолькі вялікая, што туземныя паляўнічыя забіваюць іх толькі для набыцьця рагоў, бо мясцовасьці, дзе гэта жывёла плодзіцца, ня маюць чыгунак і няма на чым правозіць мяса.

## У Злучаных Штатах. Перавозка дзічы

Вываз дзічы з Тэхаса забаронен. Выключэньне робіцца толькі для чужаземных паляўнічых, выбраўшых дзяржаўныя дазволы на права паляваньня і толькі ў тым выпадку, калі яны пакідаюць Тэхас і пад прысягай сьцьвярджаюць, што здабытая імі дзіч была законна здабыта і ня стане прадметам гандлю. У Канзасе паляўнічаму чужаземцу дазволена наступная норма вывазу ў сэзон: 2 алені, 1 мядзьведзь, 3 індзюкі і 50 шт. іншых птах, але такіх, якія не ўлятаюць у вырай.

## Францыя. Тысячны дзік

Інспэктар паляваньня Бертон, пражываючы ў Касьцелі - дэ Брунэр каля Вернона, нядаўна забіў каля Жызора тысячнага па ліку кабана. Трэба дадаць, што здабыча гэта яшчэ больш цікавей, калі прыняць пад увагу, што Бэртон забіў тысячнага дзіка пасьля вайны.

## Амерыканскі закон аб ахове і гандлю дзічы

Фэдэральны закон аб паляваньні, які абавязковы для ўсіх штатаў, забараняе перавозіць, гандляваць і хаваць дзіч нават для ўласнага спажываньня, пасьля 10 дзён пасьля зачыненьня на яе паляваньня. З тае прычыны, што ва ўсіх штатах паляваньне ня цягнецца далей, як 31 студзеня, дык адсюль ясна, што і захаваньне пярнатай дзічы, а значыць і перавозка і гандаль ёю ня можа быць пазьней 10 лютага. Штогод на гэтай глебе ўзьнікае шмат судовых спраў супроць розных асоб, у тым ліку і паляўнічых, якія забываюць дату і трымаюць у сваім склепе дзіч для ўласнага спажываньня пасьля ўстаноўленага тэрміну. Закон гэты зьяўляецца выключна жыцьцёвым сродкам барацьбы з камэрцыяй у паляваньні, якая падганяе паляўнічых да драпежніцкага зьнішчэньня дзічы.

РЭДКАЛЕГІЯ: Міх. Шмідт, П. Танашэўскі, Г. Сільнікаў.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. Шмідт.

